
Дзень Волі ў Гайнаўцы→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


У гонар Алеся Барскага→8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 15 (3126) Год LXI Беласток, 10 красавіка 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Дзень Волі ў Беластоку

**З гімна «Магутны Божа» пачалося сёлетняе беластоцкае святкаванне Дня волі, значыць, 98-годдзя з дня абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэтым годзе, у выключным выпадку, ён не быў арганізаваны 25 сакавіка. Гэта адбылося з-за супадзення ў той дзень каталіцкай Страснай пятніцы і жадання паважаць арганізатарамі беларусаў каталіцкага веравызнання, якім блізка таксама ідэя свята беларускай незалежнасці. На сцэне выступілі дзеці і моладзь, якія вывучаюць беларускую мову і паказаны былі фільмы, прысвечаныя Нілу Гілевічу, аднаму з найвялікшых сучасных беларускіх паэтаў, палітыку, звязанаму з БНФ і грамадскаму дзеячу, які памёр 29 сакавіка. Прагучала адна з апошніх размоў, якую Радыё Рацыя правяла з апошнім народным паэтам Беларусі.**

Арганізатарамі сёлетняга свята ў клубе-кавярні «Змена клімату» (31 сакавіка) былі Беларускі саюз у Польшчы, тыднёвік «Ніва», Беларускае Радыё Рацыя, Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі якія вывучаюць беларускую мову «АБ-БА», Беларускае аб'яднанне студэнтаў і Беларускае гістарычнае таварыства. Вядучы ўрачыстасць праграмны дырэктар Радыё Рацыя Юры Ляшчынскі зачытаў пасланне з нагоды сёлетняга Дня Волі Івонкі Сурвілы, прэзідэнта Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якой на апошняй сесіі Рады ў Нью-Йорку зноў дарычылі гэтую функцыю. З пасланнем да каля сотні сабраных у «Змене клімату» выступіў таксама старшыня Беларускага саюза ў Польшчы і Радыё Рацыя, галоўны рэдактар «Нівы» Яўген Вапа (тэкст публікуецца на 10 стар.). Традыцыйна ў час беластоцкай урачыстасці былі перададзены бел-чырвона-белыя букеты кветак асобам, якія вызначыліся ў працы ў карысць беларускай справы. Сёлета з рук Яўгена Вапы атрымалі іх журналістка Радыё Рацыя Валянціна Лаеўская, настаўніца з непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія Іаанна Марко і намеснік галоўнага рэдактара «Нівы» Віталь Луба.


■ Злева: Валянціна Лаеўская, Іаанна Марко, Віталь Луба, Юрка Ляшчынскі



Іаанна Марко была ўзнагароджана за садзейнічанне пашырэнню навучання беларускай мовы ў Беластоку і выдатную крэатыўную працу з дзецьмі і моладдзю ды замацаванне і развіццё штогадовых беларускіх дыктовак. Пазней у гутарцы з журналістамі прызналася:

— Для настаўніка беларускай мовы гэтая ўзнагарода вельмі важная. Яна паказвае, што наша праца вельмі патрэбная, і мы надалей мусім працаваць, вучыць дзяцей, расказваць пра нашу гісторыю, традыцыі, абрады, знаёміць іх з беларускай мовай і працаваць для будучых пакаленняў беларусаў. У нашай школе традыцыя вельмі важная. Нашы дзеці пачуццё сваёй беларускасці выносяць не толькі з дому, але таксама і са школы.

Валянціну Лаеўскую ўшанавалі, у сваю чаргу, за шматгадовае запісванне на Беларускім Радыё Рацыя гістарычнай і сацыяльнай мінуўшчыны Беласточчыны, з асаблівай увагай да трагічных польска-беларускіх суадносін у пасляваеннай рэчаіснасці. Дзякавала са сцэны:

— Я рада, што і мне ўдалося дакласці сваю маленькую цаглінку да вялікай беларускай справы тут, на Беласточчыне. Я думаю, што беларускасць не загіне і выжыве дзякуючы нам, нашым дзецям і будучым пакаленням беларусаў.

У кулуарах яна дадала:

— Заўсёды прыемна, калі праца, якая выконваецца, цэніцца. Гэтыя сімвалічныя кветкі яшчэ адзін доказ таго, што варта працаваць, у маім выпадку распрацоўваць журналісцкія тэмы, мабыць, не заўжды лёгкія. Вельмі прыемна, што я іх атрымала ў Дзень Волі за свой унёсак у беларускасць, якая ёсць тут, на Беласточчыне.

Віталь Луба атрымаў букет кветак за шматгадовую працу дзеля беларускай справы і мовы, за адданасць працы, будучы сакратаром Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, за жыццёвае прысвячэнне рэдакцыі тыднёвіка «Ніва» і як галоўны рэдактар тыднёвіка, і як рэдактар шматлікіх кніжных выданняў, а таксама як выдатны мовазнаўца безупынна выпраўляючы нашы памылкі. Пры атрыманні букета сказаў ён коратка:

— Я, як прадстаўнік калектыву «Нівы» лічу, што гэтая ўзнагарода не толькі для мяне, а для ўсяго калектыву «Нівы», для ўсіх тых, хто працаваў у рэдакцыі на працягу мінулых 60 гадоў і якія ў цяперашні час там працуюць.

На Беласточчыне Дзень Волі святкуецца ад трыццаці двух гадоў. Большасць дарослых удзельнікаў святкавання ў гэтым годзе беластоцкага Дня Волі прымала ўдзел у ім не першы раз. Сярод іх быў Яўген Янчук, суарганізатар сёлетняга Дня Волі ў Гайнаўцы (чытай — старонка 3).

— Для кожнага беларуса факт узнікнення першай незалежнай дзяржавы пасля Першай сусветнай вайны, пасля многіх гадоў царскага прыгнёту — вялікае свята. Гэта вяртанне да лепшых традыцый нашага народа. Сёлета ў Гайнаўцы мы таксама вярнуліся да гэтай традыцыі.

Быў таксама, сярод іншых, пісьменнік Міхась Андрасюк:

— Дзень Волі гэта сімвал. Гэта дзень, у якім беларусы ўпершыню сказалі пра сябе, што мы нацыя і хочам сваёй дзяржавы. Да 1990-х гадоў не было традыцыі святкавання гэтай гістарычнай падзеі. Паявілася толькі тады, калі людзі шырока даведаліся аб ёй. Раней яго адзначалі некаторыя асобы, тыя, хто сядзеў глыбей у гісторыі. Гэтае свята з'яўляецца таксама магчымасцю сустрэцца з сябрамі, якія думаюць гэтак жа пра лёс Беларусі. Мы рады, што з кожным годам усё больш і больш паяўляецца людзей на ўрачыстасцях у Беластоку, што прыходзіць усё больш і больш малады і старэйшых людзей, якіх не ведаем. Гэта азначае, што святкаванне выходзіць за рамкі толькі саміх актывістаў.

На сцэне выступіла група беластоцкай моладзі, якая вывучае беларускую мову і выступае ў гурце «Баламуты» і дзеці з групы «Баламуткі» (гэта яны праспявалі «Магутны Божа»), якімі апякуецца Аб'яднанне «АБ-БА». Вікторыя, сяброўка «Баламутаў»:

— Мая мама расказала мне, якое гэта свята і на ўроках беларускай мовы мы гаварылі пра яго. Да нашага выступлення мы рыхтаваліся папраўдзе ад пачатку навучальнага года. Песні, сярод іншых, гуртоў «Уліс», «Крамбамбуля» Лявона Вольскага рыхтаваў з намі Павел Азябла.

На жаль, не выступіў раней абвешчаны Эдуард Акулін, паэт і бард, рэдактар часопіса «Верасень». Ён прымаў удзел у пахаванні Ніла Гілевіча ў Мінску, якога словы асабліва прагучалі падчас беластоцкага Дня Волі, дзякуючы праслуханай размове з Радыё Рацыя: «Мне патрэбна беларуская Беларусь, а не расійская». Падобна як цытаваны ў ёй вершы паэта «Першая клятва» з 1947 года, з якога, — як сказаў паэт, — пачаўся яго творчы шлях:

«Як ты дорага мне, мая родная мова!
Мілагучнае, звонкае, роднае слова!

Ты калісці з калыскі мяне падымала
І вучыла ў бацькоў на руках гаварыць.
У жыцці маім слова найпершае «мама»
І цяпер для мяне сама міла гучыць.

Я па літарах родных вучыўся чытаць,
І буквар для мяне быў жыцця палавінай.
Быў шчаслівы я роднаю моваю сказаць
Першы раз: «Беларусь, мая Маці-краіна»!

І цяпер для мяне ты за ўсё прыгажэй,
Хоць, я ведаю, моваў на свеце нямала,
І з усіх песняроў мне мілей і бліжэй
Роднай мовы пясняр — неўміручы Купала.

А задумае вораг з чужога далёкага краю
Адабраць у мяне, знішчыць родную мову маю —
Не дазволю.
Не дам.
Не прадам.
Не змяняю.
І да смерці за волю яе пастаю!»

За некалькі дзён да святкавання сёлетняга Дня Волі ў Беластоку ў царкве Агія Сафія малебен за беларускі народ адслужыў айцец Кастусь Бандарук, на завяршэнне якога таксама праспявалі гімн «Магутны Божа».

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА





# У вечны вырай

Быкаў, Брыль, Барадулін, Бураўкін. Гілевіч нібыта чакаў сваёй чаргі ў алфавітным парадку і адышоў сярод класікаў сваёй эпохі апошнім. Напэўна ёсць і нейкая сімвалічнасць у тым, што паэты сталі пакідаць гэты свет менавіта вясной. Рыгор Барадулін памёр у сакавіку 2014 г., Генадзь Бураўкін — у траўні таго ж года, зараз вось у сакавіку — Ніл Гілевіч. Вясной жыццё прыроды адраджаецца, а паэты таксама пераходзяць у іншы стан, іх душы адлятаюць у вечны вырай.

Біяграфія ў Ніла Гілевіча і самая простая і незвычайная адначасна. Прыгадаем яе асноўныя вехі і пункты. Нарадзіўся ён, як і пераважная бальшыня літаратараў той эпохі, у вёсцы. Паэт з'явіўся на свет 30 верасня 1931 г. у вёсцы Слабада на Лагойшчыне, што недалёка ад Мінска. Паходзіў з сялянскай сям'і, у якой было ажно дзесяць дзяцей. Каларытнай фігурай у сям'і быў дзед па маці — Мікалай Рулькевіч — слынны музыкант, садоўнік, кветкавод, які таксама разводзіў галубоў і вараждыў на картах. Літаратарам стаў і малодшы брат Гілевіча — вядомы празаік і журналіст Мікола Гіль. Гадаваўся Ніл Гілевіч на прыродзе і прыволлі. У 1938 г. стаў вучыцца ў вясковай сямігадовай школе і да вайны паспеў скончыць тры класы. Пасля вайны пайшоў у пяты клас у суседнюю вёску Гайна, адначасна працаваў вясковым паштальёнам. Потым яго чакаў Мінск, у якім прайшла большая частка жыцця. У 1951 г. Гілевіч скончыў мінскую педагагічную вучэльню імя Крупскай, у 1956 г. — філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, пазней аспірантуру пры ім. Актыўна ўдзельнічаў у студэнцкім літаратурным руху. З 1960 г. стаў выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры БДУ. Адначасна працаваў таксама літаратурным кансультантам газеты „Звязда". З 1980 г. цягам дзевяці гадоў быў першым сакратаром праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У самы цікавы і добры час найноўшай гісторыі Гілевіч узначаліў створанае актыўным беларускім грамадствам Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, быў таксама першым рэдактарам газеты арганізацыі „Наша слова". Шырокую вядомасць як грамадска-палітычны дзеяч Ніл Гілевіч прыдбаў у час дэпутацтва ў Вярхоўным Савеце Беларусі легендарнага дванаццатага склікання. Там ён узначальваў камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Тады, калі на старых падмурках БНР узводзіліся сцены аднаўленай беларускай дзяржаўнасці, гэтай камісіяй і асабіста Нілам Гілевічам была здзейснена велізарная праца. Голас Гілевіча заўсёды гучаў выразна і да месца, а яго грамадзянская і палітычная пазіцыя была прынцыповай і сумленнай.

Сам Гілевіч, які меў шмат узнагарод, пачэсных пасад, і канешне тытул Народнага пісьменніка, выступаў супраць гэтага афіцыйнага чыну, але быў сапраўды шырока вядомым, папулярным, а значыць па-сапраўднаму народным. Яго вершы лёгка вучыліся на памяць, а песні спяваліся з радасцю. Творчая паэтычная спадчына Гілевіча агромністая, магчыма ў беларускай літаратуры ў гэтым сэнсе з ім не можа параўняцца ніхто. Паводле вобразных выказванняў Ларысы Геніюш і Міхася Скоблы, ён быў сапраўды тым велізным паўнаводным Нілам, які жывіць велізную прастору, вяртае да жыцця перасохлыя людскія душы. Усё сваё жыццё Гілевіч аддана і ахвярна служыў любімай Беларусі і роднаму слову. Зямля, якая нараджае такіх волатаў паэзіі, проста павінна жыць і набіраць моц. „І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!.." — такі прагноз-запавет пакінуў нам ён.

Правялі ў апошні шлях і пахавалі Ніла Гілевіча вельмі годна. Яго апошні спачын — на Кальварыйскіх могілках беларускай сталіцы. У Беластоку ў яго гонар было прысвечана святкаванне Дня Волі, у Гародні ў памяць паэта правялі беларускую дыктоўку, у праваслаўным саборы адслужылі паніхіду. Паміналі Народнага Паэта і ў іншых гарадах Беларусі.

Светлая памяць...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Данос на Дзяржаву



Вось ударыў мяне сардэчны прыступ! У маім выпадку быў ён, на шчасце, неглыбокі, што зусім не азначае, што лячэнне можа быць пакінутым. Сэрца патрабуе спецыялізаванай і дарагой медыцынскай апекі. Паколькі я не быў застрахаваны, лячыцца ў дзяржаўных медыцынскіх установах не маю права. Я працаваў больш за 34 гады, у тым ліку больш за 20 на дзяржаўных пасадах на поўную стаўку. На жаль, у мінулыя, цяжкія, бо худыя гады, я быў заняты ў розных рэдакцыях, але толькі па кантракце. Такія пагадненні вызваляюць працадаўцаў ад абавязку страхаваць работніка. На самастрахаванне я не мог сабе дазволіць. Цяперашнія журналісцкія ганарары дазваляюць аплаціць толькі электраэнергію, падаткі і марны харч. Таму не дазволіў я адвезці сябе ў бальніцу, баючыся жахлівых выдаткаў на лячэнне. Інфаркт неяк перажыў. Прыйшоў я ў сябе толькі з дапамогай добрага доктара... з нававаўскага госпісу, які абследаваў мяне, даў лекі, рэкамендуючы неадкладна пададца на спецыялізаванае абследаванне. Пайшоў я ва Упраўленне па занятасці ў Гайнаўцы для рэгістрацыі ў якасці беспрацоўнага, каб у такі спосаб атрымаць статус застрахаванай асобы. Ва ўстанове, для сямі дам, якія старанна паскрэбвалі пазногцямі па пісьмовых сталах, калі я ўвайшоў у пакой, быў я адзіным прасіцелем. Нягледзячы на гэта, я павінен быў гучна аказацца, паведамляючы ім аб маёй справе. Я запоўніў апытальнікі, вярнуўся з імі да кіраўнічкі. Крэсла для просьбіта стаяла побач не стала, але не запрасілі мяне сесці, хоць анкета патрабавала скрупулёзных і працаёмкіх занатовак. Нягледзячы на гэта, я самавольна сеў, што неабавязкова спадабалася даме. Адразу ж стала перад намі невырашальная праблема — я не меў пацвярджэнняў занятасці з папярэдніх і амаль забытых гадоў. Бо ж адкуль мне ведаць, што пры рэгістрацыі ёсць такое патрабаванне? Рэгістрацыя з'яўляецца рэгістрацыяй. Іншая справа, што ўсе мае жыццёвыя дакументы даверыў я сваёй сястры, якая жыве ў Познані. Таму я патлумачыў чыноўніцы, што дакументы дастаўлю на працягу некалькіх дзён, а мне неабходна тэрмінова зарэгістравацца ў якасці таго, хто шукае працу, каб атрымаць страхоўку, каб я мог выканаць неабходныя абследаванні ЭКГ, а затым пачаць лячыцца і... працаваць. І тут я зрабіў кардынальную памылку. Я прызнаўся, што працую і зарабляю сабе на жыццё, і, на самой справе, я маю на ўвазе толькі страхаванне. Дама абвясціла недаступным тонам, што без пасведчанняў яна не можа мяне зарэгістраваць...

У той жа дзень я падаўся ў Гмінны цэнтр сацыяльнага забеспячэння ў Нарве. Даведаўся я, што кожны жыхар гміны, бедны ці багаты, працуючы ці не, мае права падаць заяву на часовае страхаванне, калі такога не мае. Толькі што я не з'яўляюся ні асаблівa бедным або беспрацоўным, а толькі сур'ёзна патаптаным хваробішчам. Раздумваў, якую стратэгію прыняць у гміне. Ці лгаць у жывыя вочы? Не без страху я выбраў варыянт праўды. І якое было маё здзіўленне, калі чыноўніцы ў гміне паставіліся да мяне з асаблівай дбайнасцю, культурай і павагай. З клопатам заняліся чалавекам і яго праблемай, якую сам ён не мог вырашыць. На працягу трох дзён у мяне было ўжо часовае страхаванне, якое дало мне права на бясплатнае медыцынскае лячэнне ў дзяржаўных установах аховы здароўя. Так вось і лячуся. Праўда, за кошт Нарваўскай гміны, значыць, гміннага самакіравання, якое мяне ласкава застрахавала, а не за кошт Упраўлення па занятасці — павятовай установы польскай дзяржавы, якой з'яўляюся грамадзянінам, як высветлілася, другой катэгорыі, нягледзячы на той факт, што я на працягу больш за трыццаць гадоў не хварэў, не быў у бальніцы, не атрымліваў якойнебудзь сацыяльнай дапамогі. Я дзесяцігоддзямі перадаваў дзяржаве значную частку майго даходу ў выглядзе медыцынскага страхавання. А ўжо аб падатках і іншых данінах не згадваю. Але гэта не пра мяне тут гаворка ідзе, але... пра ўсіх грамадзян. Тых яшчэ здаровых, пакуль нябедных у фінансавых адносінах, працавітых, законапаслухмяных, сумленных. Нават не ведаеце, калі станеце грамадзянамі другога гатунку.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Рада для ліквідацыі

Урад мае намер ліквідаваць Раду па папярэджанні расавай дыскрымінацыі, ксенафобіі і звязанай з імі неталерантнасці, якая была створана ўказам старшыні Рады Міністраў у лютым 2013 года, значыць, была рашэннем папярэдняй прэм'ер-міністр Евы Копач. Паводле яе, да задач Рады ўваходзілі: маніторынг і аналіз абшараў, у якіх выступалі з'явы расавай дыскрымінацыі, ксенафобіі і звязанай з імі нецярпімасці ў грамадскім жыцці, прадстаўлянне Радзе Міністраў плану дзеянняў органаў прадстаўленых у Радзе ў абсягу прадухілення і барацьбы з расавай дыскрымінацыяй, ксенафобіяй і звязанай з імі неталерантнасцю, рэкамендаванне тэм аналізаў або экспертыз неабходных для рэалізацыі задач Рады і правядзенне рэкламных мерапрыемстваў у барацьбе супраць расавай дыскрымінацыі, ксенафобіі і звязанай з імі неталерантнасці. Старшынёй Рады быў міністр адміністрацыі і лічбавізацыі або вызначаны ім дзяржсакратар або намеснік дзяржсакратара. Яна ўключала ў сябе міністраў розных ведамстваў і экспертаў. Ініцыятарам яе стварэння быў тагачасны кіраўнік ведамства лічбавізацыі Міхал Боні (гэтае міністэрства цяпер рэструктурызавана). Афіцыйнай прычынай ліквідацыі Рады з'яўляецца «рэформа кампетэнцый урада». Я не думаю, што гэта добры ход. Таксама калі гаворка ідзе аб дзейнасці Рады ў кантэксце захавання правоў нацыянальных і этнічных меншасцей у Польшчы, асабліва ў дачыненні да даходзячых час ад часу публічных актаў ксенафобскай нецярпімасці, праяў неталерантнасці ў адносінах да іх таксама, хоць і ў значна меншай ступені ў адносінах да беларускай. Найбольш уразлівымі на іх з'яўляюцца ромы, габрэі і немцы. Гэтак вынікае, сярод іншых, з рапарта, які 25 лютага прадставіў парламенцкай камісіі па нацыянальных і этнічных меншасцях амбудсмен Адам Боднар. Дакумент тычыцца абароны правоў нацыянальных і этнічных меншасцей у Польшчы ў 2013-2015 гадах. У гэты перыяд у адрас Упаўнаважанага паступіла 133 скаргі, у якіх — як акрэсліў амбудсмен — сігналізаваліся парушэнні правоў нацыянальных і этнічных меншасцей. Ён адзначыў, што «сярод заяўнікаў пераважалі грамадска-культурныя або няўрадавыя арганізацыі, якія займаюцца пытаннямі расізму, дыскрымінацыі і ксенафобіі. Няшмат скаргаў атрымана ад асоб, якія належаць да меншасцей. Большасць спраў, звязаных з абмяркоўваным пытаннем, звязана было са становішчам ромскай меншасці (...). Значная частка выпадкаў датычыла інцыдэнтаў на ксенафобскай глебе або нападаў асабліва агрэсіўных, або вандалізму матываванага ксенафобіяй, або расісцкіх поглядаў (былі выпадкі нападаў на цыганскія сем'і ў Лодзі або знішчэнне двухмоўных польска-літоўскіх шыльдаў з назвамі населеных пунктаў». Ён прыйшоў да высновы: «Трывогу амбудсмена выклікаюць устойлівыя ў грамадскай свядомасці стэрэатыпы ў дачыненні да розных груп меншасцей, што часам прыводзіць да праявы негатыўнага стаўлення да людзей з няпольскім паходжаннем або нацыянальнасцю. Гэта знаходзіць сваё адлюстраванне ў ходзе публічнай дыскусіі, асабліва ў інтэрнэце, але і ўсё большай колькасці злачынстваў матываваных прадузятасцямі». Сярод чатырох «асноўных праблем у галіне абароны правоў нацыянальных і этнічных меншасцей і асоб, якія належаць да гэтых меншасцей» упаўнаважаны па правах чалавека адзначыў неабходнасць «актывізавання намаганняў дзеля супрацьву павелічэнню ў апошнія гады хвалі ксенафобіі ці нават нянавісці ў адносінах да людзей розных па нацыянальнасці або этнічным паходжанні. Грамадскі дазвол і адсутнасць своечасовага і адэкватнага рэагавання з боку кампетэнтных дзяржаўных органаў на інцыдэнты на глебе нянавісці спрыяюць нарошчванню варожага стаўлення, замацаванню негатыўных стэрэатыпаў і прадузятасцей». Якраз да сістэмных пошукаў, хаця б і часовых рашэнняў у гэтай галіне, служыла Рада па папярэджанні расавай дыскрымінацыі, ксенафобіі і звязанай з імі неталерантнасці. Яе ўдзельнікі таксама мелі магчымасць непасрэднай «сенсібілізацыі» па гэтым пытанні (на трывожныя інцыдэнты і з'явы) паліцыі, пракуратуры і судоў і ўплываць у гэтых адносінах на навучальны працэс. На маю думку, з пункту гледжання нацыянальных і этнічных меншасцей, важнае было яе функцыянаванне тым больш, што Сумесная камісія ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей неяк да гэтага часу не давала рады «прабіцца» ў гэтых адносінах.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Дзень Волі

## ў Гайнаўцы

**25 сакавіка, у 98-ю гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы сабраліся беларусы Гайнаўшчыны, Бельшчыны і Беластока, каб святкаваць Дзень Волі. Пра беларусаў Беласточчыны, якія прымалі ўдзел у стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі і змагаліся за яе самастойнасць, расказаў прафесар Алег Латышонак з Універсітэта ў Беластоку, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства. На сустрэчы дэманстраваўся фільм Радаслава Дамброўскага «Вольны», пра нашага выдатнага беларуса Юрыя Туронка. Удзельнікі святкавання частаваліся буславымі лапамі, якія прывезлі госці з Беластока. На заканчэнне спаткання выступіў бард Алег Кабзар.**

Святкаванне Дня Волі ў Гайнаўцы распачалося і закончылася двума гімнамі — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...» і «Магутны Божа». Сабраныя ў кіназале белмузея насілі прышпіленыя да вопраткі бел-чырвона-белыя стужкі, а ўся сустрэча прайшла пад бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня». Урачыстасць у патрыятычным духу вёў гайнавянін Яўген Янчук. Першым перад сабранымі выступіў прафесар Алег Латышонак.

— Я рады, што ў Гайнаўцы адбываецца святкаванне Дня Волі, бо кожнае такое патрыятычнае мерапрыемства, падчас якога ўспамінаецца славутае мінулае Беларусі і стварэнне БНР, падбадзёрвае і дае нам натхненне і дадатковыя сілы для далейшай працы ў беларускай справе. У Беластоку штогод адбываюцца святкаванні Дня Незалежнасці, але патрэбныя таксама святочныя сустрэчы ў рэгіёнах. З Гайнаўшчыны выводзіліся беларусы, якія змагаліся за Незалежную Беларусь і мы тут маем магчымасць аддаць ім гонар. У мінулым годзе мы падчас святкавання Дня Волі ў Беластоку частавалі яго ўдзельнікаў *буславымі лапамі*. Цяпер мы спяклі ў Беластоку *буславыя лапы* і будзем частаваць імі сабраных тут людзей. Гэта наша беларуская праваслаўная традыцыя, якая раней была жывая ў нашых вёсках, калі нашы бабулі пяклі *буславыя лапы* і частавалі імі сямейнікаў на Благавешчанне Прасвятой Багародзіцы. Зараз мы традыцыю, прымеркаваную да пачатку вясны, сталі аднаўляць, — сказаў прафесар Алег Латышонак, які пасля свайго выступлення пачаставаў сабраных *буславымі лапамі*.

— Ужо пяты або шосты раз публічна ладзіцца Дзень Волі ў Гайнаўцы, па-за гайнаўскімі белліцэем і белгімназіяй, а трэці раз адзначаем Дзень Незалежнасці ў белмузеі. Два разы ладзіўся ён у музейных памяшканнях, якія належалі да рэстарана «Лясны дворык», а зараз святкаванне адбываецца ў кіназале белмузея. Сённяшняе мерапрыемства мы наладзілі як прыватныя асобы, а гайнаўскі белмузей, які з'яўляецца цэнтрам беларускай культуры ў Гайнаўцы, ёсць добрым месцам на святкаванне Дня Волі. Медыйны патранат трымаюць сёння ВАША НІВА — першая беларуская газета не на паперы, тыднёвік «Ніва» і Радыё Рацыя. 25 Сакавіка — свята, калі мы адчуваем сувязь з усімі беларусамі ў свеце. Пашана да гісторыі, да нашых продкаў вельмі важная для захавання нашай нацыянальнай свядомасці, — сказаў суарганізатар святкавання Яўген Янчук з Гайнаўкі.

— Гэта мая ініцыятыва, каб ізноў адзначыць Дзень Волі ў Гайнаўцы. Патэлефанаваў я Яўгену, Лукашу і распачалі мы падрыхтоўку да святкавання. Штуршком быў Марш памяці выклятых жаўнераў у Гайнаўцы, калі мы не праяўлялі сваёй актыўнасці. Цяпер паўстала ідэя святкавання Дня Волі, пры нагодзе якой можам заявіць аб прысутнасці нас, беларусаў, у Гайнаўцы. Вяртаемся да святкавання Дня Незалежнасці ў нашым горадзе. Відаць, што ініцыятыва апраўдалася, бо сабраліся не толькі гайнавяне. Прыехалі беларусы з Беластока, Бельска-Падляшскага. Варта было б за год працягваць святкаванне Дня Незалежнасці ў Гайнаўцы, — сказаў Хрыстафор Ангельчык з Гайнаўкі.

— Патэлефанаваў мне Хрыстафор і запрапанаваў наладзіць Дзень Незалежнасці ў Гайнаўцы, а я сказаў яму — чаму не. Святкаванне Дня Волі ў Гайнаўцы, гэта патрэба сэрца, — заявіў Лукаш Плева з Гайнаўкі, суарганізатар святкавання.


Прафесар Алег Латышонак


Суарганізатар святкавання Яўген Янчук


Алег Кабзар падчас канцэрта ў белмузеі




Прафесар Алег Латышонак расказаў сабраным пра беларусаў Беласточчыны, якія прымалі ўдзел у стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі і змагаліся за яе самастойнасць.

— Калі стваралася Беларуская Народная Рэспубліка ў 1918 годзе, жыхары Беласточчыны былі ў бежанстве. Калі б нашы людзі засталіся дома, напэўна намнога больш іх прыняло б удзел у змаганнях за незалежнасць Беларусі. Вядомай асобай з Беласточчыны, якая ўзначальвала ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі, быў Язэп Варонка з Кузніцы-Беластоцкай. За Беларускую Народную Рэспубліку змагаўся атрад Міколы Дзямідава з Гарадка, у якім ваявала 400 чалавек з Беласточчыны. Былі там Кастыцэвіч, хутчэй за ўсё Яраслаў Кастыцэвіч, пазнейшы арганізатар беларускага школьніцтва ў Бельску-Падляшскім, а з ім былі Аляксандр Семяняка і Уладзіслаў Казлоўскі, — распавядаў Алег Латышонак падчас даклада. Назваў ён таксама прозвішчы іншых герояў з Беласточчыны, якія змагаліся за вольную Беларусь, такіх як паэт і публіцыст Сцяпан Пятэльскі з Гарадка, беларускі дзеяч, настаўнік і дырэктар першай беларускай школы ў Гродне Аляксандр Грыкоўскі з Корніна (род Грыкоўскіх жыве ў Новым Корніне — А. М.), Янка Чарапук з Новага Двара, які дзейнічаў у структурах БНР, ці Усевалад Ігнатоўскі, ураджэнец Такароў, першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук.

У цішыні і з увагай сабраныя паглядзелі фільм Радаслава Дамброўскага «Вольны», пра нашага беларускага дзеяча і гісторыка Юрыя Туронка. Асобы, якія выказваліся ў стужцы «Вольны», адзначалі сумленнасць, ахвярнасць і адданасць Юрыя Туронка беларускай справе, звярталі ўвагу на яго аўтарытэт у асяроддзі беларускай моладзі на Беласточчыне на зломе васьмідзясятых і дзевяностых гадоў. Выступаючы пасля прэзентацыі стужкі Радаслаў Дамброўскі ўспомніў пра іншых беларусаў Беласточчыны — герояў фільмаў з цыкла «Носьбіты культуры»

— У рамках праекта «Носьбіты культуры» выдадзены дзве кружэлкі, на якіх запісаны па два фільмы на кожнай. На іх апрача Юрыя Туронка паказаны паэт Віктар Швед, навуковы супрацоўнік прафесар Міхал Кандрацюк і культурны дзеяч Мікола Бушко. У гэтым годзе планую стварыць два фільмы пра Міхала Андрасюка і Віктара Кабаца, але можна будзе іх паглядзець не раней як восенню, — заявіў аўтар фільмаў з цыкла «Носьбіты культуры» Радаслаў Дамброўскі.

Песні ў выкананні Алега Кабзара ўзмацнілі патрыятычны настрой сустрэчы. Удзельнікі ўрачыстасці маглі таксама пагля дзець карціны Алега Кабзара, якія прэзентаваліся на вялікім экране.

— Важна, што людзі сабраліся святкаваць Дзень Волі. Праграма змяшчае ўсё, што характэрнае патрыятычнаму мерапрыемству. Ёсць інфармацыя пра абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі і пра людзей з Беласточчыны, якія прымалі ўдзел у гістарычных падзеях гэтага перыяду. Цікавым быў фільм «Вольны», прысвечаны гісторыку Юрыю Туронку. Займальна выступіў наш бард Алег Кабзар, — заявіў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

У святкаванні прыняў удзел настаўнік беларускай мовы Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы і музейны дзеяч Ян Карчэўскі.

— Добра, што тут, у белмузеі, адбываецца ўрачыстасць у гонар Акту 25 Сакавіка, бо не ўсе ў змозе даехаць на святкаванні ў Беласток. Маем магчымасць на месцы ў патрыятычным духу святкаваць угодкі стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, — заявіў настаўнік Ян Карчэўскі. Два дні раней у Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы Ян Карчэўскі разам з настаўніцай беларускай мовы Іалантай Грыгарук і вучнямі арганізавалі школьнае святкаванне Дня Волі, якое ў школе ладзіцца штогод.

— Мы ў ліцэі і гімназіі таксама адзначалі Дзень Волі. Белліцэісты выслухалі, стоячы на зважай, беларускі гімн, а я напомніў ім пра стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе. Вучні паглядзелі фільм «Сярожа», якога рэжысёр Юры Каліна быў прысутны на сустрэчы з ліцэістамі. Так як год назад я арганізаваў белгімназістам турнір «Юны беларусавед». Прынялі ў ім удзел прадстаўнікі ўсіх пяці класаў гімназіі. Вучні адказвалі на пытанні па беларускай літаратуры, гісторыі, у тым ліку пра Акт 25 Сакавіка. Трэба было белгімназістам ведаць аб жыцці беларусаў у нашым рэгіёне і пра беларускія сродкі масавай інфармацыі. Раней вучні не ведалі тэм, па якіх я буду іх пытаць і я быў задаволены, што моладзь умела назваць па-беларуску птушак, чуючы толькі іх спеў. Першае месца ў турніры заняў клас «І Б», на другім месцы апынуўся клас «ІІІ А», а трэцяе месца заняў клас «І А». Я параіў сяброўцы Іаланце Грыгарук арганізаваць агульнашкольнае чытанне па-беларуску фрагментаў «Новай зямлі» Якуба Коласа. У ім прынялі ўдзел гімназісты і настаўнікі з дырэктарам Яўгенам Сачко і намесніцай дырэктара Нінай Лукасік, — распавёў пра падзеі ў сваёй школе настаўнік Ян Карчэўскі падчас святкавання Дня Волі ў Гайнаўскім белмузеі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА.**

## Дэмаграфія Дубіцкай гміны

Напрыканцы мінулага стагоддзя ў Дубіцкай гміне пражывалі 2 524 чалавекі, у тым ліку 1 275 мужчын і 1 249 жанчын. Да найбольшых вёсак належалі Грабавец (402 жыхары), Дубічы-Царкоўныя (268), Стары Корнін (214), Тафілаўцы (203) і Ягаднікі (190). Шчыльнасць насялення — 18 жыхароў на адзін квадратны кіламетр. У Дубіцкай гміне 17 салэцкіх вёсак (усіх мясцовасцей 28).

У 2014 годзе Дубіцкая гміна налічвала 1 602 асобы (807 жанчын і 795 мужчын) ды мела шчыльнасць насельніцтва 11 чалавек на 1 квадратны кіламетр. У 2014 годзе памерлі 43 асобы, а нарадзілася 9 дзяцей. У 2002-2015 гадах лік жыхароў паменшаў на 21,5%. Зараз 14% жыхароў гэта ўдаўцы і ўдовы. На 100 мужчын прыпадаюць 102 жанчыны. Жанчыны жывуць у сярэднім 55 гадоў, а мужчыны — 50 гадоў. Цяпер у гэтай гміне ўдоў пяць разоў больш чымсьці ўдаўцоў.

У 2015 годзе ў Дубіцкай гміне пражывалі 1 633 чалавекі, нарадзілася 7 дзяцей ды памерлі 52 асобы. Дзесяць пар святкавала 50-годдзе шлюбнага сужыцця. Да найбольшых вёсак належаць Грабавец (249 жыхароў), Дубічы-Царкоўныя (247), Ягаднікі (154), Тафілаўцы (129) і Стары Корнін (124). Ад 50 да 100 жыхароў налічваюць Карыцкіе — 97, Іsток — 88, Чахі-Арлянскія — 86, Вітава — 76, Вэрсток — 62 і Елянка — 52.

Маленькіх паселішч у Дубіцкай гміне шэсць: Забагоне (9 жыхароў), Кругле (5), Выган і Нікіфароўшчына (па 3), Клякава (2) і Якубова (1 жыхар). Ад 10 да 30 жыхароў маюць вёсачкі Краскоўшчына — 11, Пасечнікі-Малыя і Пяскі — па 14, Сямівалокі — 16, Бобінка — 17, Гурны Груд — 18, Старына — 20, Вілюкі — 23 і Доўгі Брод — 25.

## Зялёны сезон пачынаецца

Ужо ў Беластоку пачаўся г.зв. зялёны сезон. Найперш пачалі садзіць дрэўцы вярбы ў парку Антонюк. Плануюць сёлета пасадзіць у горадзе 207 дрэўцаў, 5,5 тыс. кустоў і 4 тысячы былін — за 93 тысячы злотых.

У парку Пляньты пасадзяць 250 дэкаратыўных кустарнікаў і 600 былін. Тысячу штук былін закрасуе вясной у беластоцкім Цэнтральным парку, 500 у парку імя Я. Дзяконскай, па 300 на скверыку пры вуліцы Мальмеда і на вуліцы Ліпавай (побач навукова-тэхнічнай кнігарні) ды 500 былін на пляцы імя М. Сапоцькі (тут пасадзяць яшчэ і 80 кустоў).

Варта дадаць, што ўжо на скрыжаванні з кругавой развязкай А. Люсы цешаць зрок першыя вестуны вясны — жоўтыя шафраны.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## СПАЧУВАННІ

З вялікім смуткам паведамляем, што 25 сакавіка 2016 года на 83 годзе жыцця памерла наша шматгадовая наборшчыца

**ВЕРА ПАПОВА**

Сыну Ігару, сям'і і блізкім Пакойніцы словы шчырага спачування выказвае калектыў «Нівы».

# Ягоныя Крынкі — прыгажэйшыя



**МАРЦІН БЕЛЬСКІ ў пошуках найпрыгажэйшага кадра і святла ніколі не забывае, што фатаграфія гэта перш за ўсё эмоцыі, клімат і нетрадыцыйнае светабачанне. На яго здымках свет спыняецца, адчуваецца цішыня, а гісторыю расказваюць краявіды. «Ніве» расказвае пра свае фатаграфічныя падарожжы, тэхніку, абсталяванне і любімыя Крынкі.**

**— Як Ты працуеш над фотаздымкамі, што на іх такія фантастычныя колеры, кантрасты? Часта выглядаюць так, быццам бы яны выйшлі з рук геніяльнага мастака...**

— Так, некаторыя людзі нават кажуць, што займаюся «паштовачнай» фатаграфіяй (*смех*). Але гэты тэрмін, хоць і смешны, не мае дачынення да таго, чым я займаюся. Маю творчасць можна ўпісаць у жанр фатаграфіі краявіду. Вельмі важны ў ландшафце, калі не самы важны, гэта колер. Тым не менш, я не атрымліваю яго нейкім асаблівым чынам. Гэта ўсё натуральныя колеры прыроды, святло. Вось цэлы сакрэт.

**— Якія трэба мець здольнасці, каб зрабіць добрую фатаграфію краявіду?**



— Перш за ўсё трэба быць цярплівым, але і ўмець адчуваць надвор'е і кіравацца сваёй інтуіцыяй. Часам адчуваю, што я павінен зайсці куды-небудзь, або мінаць некаторыя месцы. Гэта часта пачуццё амаль містычнае, мацнейшае за мяне. Раніцай — свет прыгажэйшы. Мяккае святло, а часам туман робяць наша роднае асяроддзе не так паспалітым. Мне падабаюцца вузкія кадры і мінімалізм. Калі мы гаворым аб пейзажнай фатаграфіі, вядома, першая думка гэта начныя прагулкі на ровары. З іншага боку, гэта мой спосаб адпачыць ад працоўнага тыдня. Да гэтага я раблю тое, што мне падабаецца і я заўсёды атрымліваю асалоду ад незвычайных краявідаў.

**— Выходзячы з апаратам на горад, Ты заўсёды ведаеш, што будзеш фатаграфаваць?**

— Маю такія месцы, якія мяне зачаравалі і я вяртаюся туды. Стараюся загадзя планаваць дзе я хачу быць, у якую пару года, дня, а таксама тое, што мае апынуцца на маіх здымках. Хоць часам надвор'е мяняе мае планы, аднак я заўсёды пакорліва гэта прымаю. Ідзі нараджаюцца ўжо падчас сесій — будучы ўпершыню ў пэўным месцы, я ніколі не маю нейкіх акрэсленых планаў на «гэты адзіны кадр». Часам інтрыгоўныя эфекты ўзнікаюць выпадкова, у найменш чаканы момант.

**— На сваіх фотаздымках будуеш свет пазбаўлены захапляльных падзей. Усълаўляеш звычайнасць, паўсядзённае жыццё Крынак і наваколля ...**

— Я нарадзіўся ў Крынках, працую тут і не разумею, калі хтосьці бачыць наш гарадок як бесперспектыўнае месца, з якога трэба ўцячы. Мне падабаецца спакой, і вядома, адметная, непаўторная гісторыя. Наведваючы тыя ж самыя месцы, за кожным разам успрымаю яго інакш. Мяне Крынкі ўвесь час уражваюць.

**— І гэта цікава, таму што большасць фатографаў робіць здымкі для нечага, што з'яўляецца ўнікальным, а Ты паслядоўна будуеш свет са звычайных дзеянняў і падзей.**

— Часта езджу па Крынках і наваколлі на ровары. Гэта найлепшы спосаб, каб уважліва прыглядацца месцам. Заўважаю, што большасць людзей толькі праязджае праз Крынкі, накіроўваючыся ў Крушыняны. Маёй нясціплай марай з'яўляецца



тое, каб дзякуючы маім здымкам людзі хацелі і тут затрымацца. Стараюся паказаць прыгажосць гарадка, якую я бачу.

**— Ці адчуваеш сябе аматарам ці прафесіяналам?**

— Я думаю, што ў мяне ёсць даволі папулярнае хобі. Фатаграфія ў маім выпадку ўнікальная ад іншых маіх захапленняў, таму што гэта адзіная жарсць, якой эфекты мяне цешаць. Я магу бачыць як я развіваюся і ў мяне ёсць вялізнае жаданне далей і хутчэй развівацца. На жаль, вывучэнне некаторых рэчаў патрабуе часу. Самых хрэстаматыйных правілаў можна навучыцца вельмі хутка, але больш важным з'яўляецца тое, каб зразумець, чаму існуюць такія правілы.

**— Сёння ўсе фатаграфуюць нават пры дапамозе мабільнікаў, а пазней ставяць здымкі ў інтэрнэт. Ці фатаграфія, якая з'яўляецца галінай мастацтва, сёння не страціла свайго значэння?**

— Гэта, што ўсюды публікуюцца «пстрыкі» не абазначае, што гэта фотаздымак праз вялікае Ф. Я перакананы, што фатаграфія не страціла сваёй вартасці. Давайце забярэм з сабою ў гэтыя ж Крынкі трое чалавек з фотаапаратамі. Кожны з іх будзе мець тыя ж самыя ўмовы, але ці праца кожнага з іх будзе вартая выставы? Хутчэй за ўсё — не.

Фатограф, вядома, чалавек, які робіць здымкі. Я не кажу тут пра людзей, якія купляюць сабе добрае абсталяванне і яны думаюць, што тое робіць іх прафесійнымі фатографамі. Я думаю, што гэта перш за ўсё чалавек здольны ствараць здымкі, якія маюць нейкі пераказ, эмоцыі і характар. Гэта вельмі цяжка дасягнуць, паколькі такі працэс не з'яўляецца пытаннем некалькіх тыдняў, толькі дзясяткаў гадоў, на аснове вопыту і сталай практыкі. І, вядома ж, залежыць ад таго, якога роду фатаграфію хтосьці робіць, таму што калі ты рэпарцёр — ты павінен памятаць пра аб'ектыўнасць, а калі ты фатограф-мастак — павінен звяртаць большую ўвагу на эмоцыі. Які я фатограф? Цяжка вызначыць сябе... Лепш за ўсё ўбачыць мае фатаграфіі, а затым самому сфармуляваць сваё ўласнае меркаванне.

**Дзякую за размову.**

**Марцін Бельскі нарадзіўся ў Крынках. Закончыў факультэт адміністрацыі Універсітэта ў Беластоку. Працуе ў Спартовым клубе пры Гарадской управе ў Крынках. Яго персанальныя выстаўкі былі ладжаны, між іншым, у Крынках. Большасць яго прац можна паглядзець у інтэрнэце.**

**Уршуля ШУБЗДА**

# Протаіерэй Яўген Сушч і вернікі з Беласточчыны не забываюць Слонімшчыну








Праваслаўныя вернікі прыхода Нараджэння святога Іаана Хрысціцеля і яго настаяцель протаіерэй Яўген Сушч з вёскі Пасынкі Бельскага павета наведалі вёску Сынковічы Зэльвенскага раёна, Слонім і Жыровічы. Гэта іх другі візіт за апошнія тры гады. У вёсцы Сынковічы госці наведалі славутую Сынковіцкую царкву, сустрэліся і пагутарылі з яе настаяцелем айцом Арсенем Ананкам. Пасля Сынковічаў госці з Беласточчыны паехалі ў Слонім, дзе яны наведалі сацыяльна-педагагічны цэнтр Слонімскага раёна і прывезлі гуманітарную дапамогу для яе выхаванцаў. Падчас сустрэчы айцец Яўген Сушч сказаў, што „мы прывезлі любоў да дзяцей, таму хочацца, каб мы ўсе разам жылі ў дружбе і згодзе, каб нашы дзеткі і ў Беларусі, і ў Польшчы былі заўсёды шчаслівыя".

Са Слоніма шлях праваслаўных вернікаў прыхода Нараджэння святога Іаана Хрысціцеля з вёскі Пасынкі ляжаў у Жыровічы. Жыровіцкі манастыр таксама атрымаў дапамогу ад гасцей і прытуліў іх да раніцы ў сваіх сценах.

**Барыс Баль**,
Беларускае Радыё Рацыя,
Слонімскі раён

# Абразок з вайны

Гэта сапраўдная гісторыя з часоў Другой сусветнай вайны. Не сапраўдныя толькі імёны і прозвішчы яе герояў.

Уладзя была ў мамы адзінай дачкой, адзіным блізкім чалавекам. Вельмі яны кахаліся, жыцця без сябе не ўяўлялі. Калі немцы забіралі маму Людвіку на прымусовую працу ў Нямеччыну Уладзі споўнілася ўсяго дванаццаць гадоў. Прыйшлі ўначы. Дзяўчынка невялікая і дробненькая як на свае дванаццаць гадоў назаўсёды запамятала пледзік, якім абвівала яе маці ў гэтую страшную, доўгую, халодную ноч. Маці ўзяла яе на рукі і пайшла да солтыса. Там немцы вырвалі Уладзю з маміных абдымкаў і аддалі солтысу. Людвіку пасадзілі ў аўтамабіль і павезлі ў суседнюю вёску, у якой знаходзіўся зборны пункт усёй навакольнай працаздольнай моладзі, прызначанай на прымусовую працу ў Нямеччыне. Уладзю ўзялі да сябе старыя Зелянкевічы. Жылі яны ў адной хаце з дарослай, але яшчэ незамужняй дачкой Юзяй, сынам і яго жонкай. Уладзя вельмі перажывала разлуку з мамай. Не ела, не піла, не спала. Дзень і ноч прасіла добрага Бога, каб вярнуў яе маму.

У зборным пункце паявіўся знаёмы ляснік. Заступіўся за Людвікай — самай лепшай яго працаўніцай. Немцы паслухалі, адпусцілі яе дахаты.

Уладзя ўбачыла вяртаючуюся ў вёску маму. Як жа яна цешылася, як дзякавала міласэрнаму Богу.

Так склалася, што месяц пасля шчаслівага вяртання ў сям'і Зелянкевічаў здарылася сапраўдная трагедыя. Гэтую суботу Уладзя помніць быццам сённяшні дзень. Сын Зелянкевічаў забіў сваіх бацькоў. Праўдападобна ўдзел у злачынстве мела таксама яго жонка. Усё было запланавана. Цяжарная жонка ў той жа жудасны дзень адправілася да сваіх бацькоў. А ён уначы сякерай адрэзаў галовы ўсім застаўшымся ў хаце: родным бацькам, роднай сястры Юзі. Сцены хаты пакрыліся пырскамі мазгоў забітых. А на панадворку — перадвелікодная, святочная чысціня. Ад плота да хаты — сцяжынка, якую Юзя ўласнаручна высыпала жоўтым пясочкам.

Якое ж шчасце што Уладзя была ўжо ў сваёй мамы.

А там цэлая сям'я забітая.

Марнатраўны сын, каб не было заўважна, парэзаў сабе брытвай грудзі і пярыну.

Немцаў ужо не было ў вёсцы. За парадкам сачыла ўжо камуністычная бяспека.

Солтыс хутка заняўся справай, звязаўся з адпаведнымі органамі той жа бяспекі. Марнатраўны сын не прызнаваўся да свайго злачынства. Ва ўсім вінавацію паўсюль прысутных, надзвычай актыўных у той час навакольных партызан. Прыкідваўся ён ахвярай, якой быццам у апошнюю хвіліну ўдалося зберагчы сваю скуру. Не паверылі. Забралі ў вязніцу.

Сапраўдны жах. Не дзіўна, што з праклятай хаты на ўсю вёску раздаваўся жудасны стогн забітых. Страх было туды заглядаць.

Сям'я Зелянкевічаў была дастаткова багатай. Іх гаспадарку разам з коньмі, каровамі і свіннямі канфіскавала дзяржава. Дапамагчы ў правядзенні канфіскацыі арыштаваны папрасіў Людвіку. Спярша паехала яна ў вязніцу. Трымалі яго ў склепе. На сустрэчу прывялі скаванага цяжкімі ланцугамі.

Зразу папрасіў папяросу і шклянку вады. Усё трэба было падаць яму ў губы, таму што рукі былі звязаны.

— Што сталася? — запытала Людвіка.

— Я табе ўсё раскажу, — раскаяўся зняволены. — Мы ж разам узрасталі, разам у школу хадзілі. Гэта я забіў бацькоў і сястру. Так, я. Цяпер рабіце са мной, што хочаце.

У раённай вязніцы надта яму дакучалі не толькі вартаўнікі, але і іншыя зняволеня. Зневажалі, не давалі ні есці, ні піць. Потым вывезлі яго невядома куды.

У хаце Зелянкевічаў засталася цяжарная нявестка. Надта ёй было там страшна адзінокай. Безупынна клікала суседзяў.

Прайшло некалькі месяцаў. Уладзя гуляла на вуліцы разам з іншымі дзяцьмі. Раптам уся кампанія разбеглася па хатах, а яна стаяла быццам нехта яе там прывязаў. З панадворка Зелянкевічаў выходзілі, быццам жывыя, бацькі і дачка. Спярша Юзя, затым маці, а на канцы ішоў бацька. Перасеклі вуліцу, і адправіліся ў лес, у напрамку вёскі, у якую некалькі гадоў пазней Уладзя выйшла замуж. Усе ў белым, доўгім адзенні. Уладзя стаяла некалькі метраў ад іх плота. Бачыла як з'явы пераходзілі цераз той плот, як перакідалі ногі.

Вярнулася яна дахаты бледная быццам сцяна, дрыжала ад хвалявання. Мама спярша не паверыла яе аповедам, але потым сцвердзіла што, мабыць, ёсць у гэтым промысел Божы. Добра ведала, што Юзя і яе бацькі вельмі любілі і сцераглі Уладзю. Не хацелі забраць яе з сабой.

Яна ж таксама магла ісці ў той жа лес у белым адзенні.

**Іаанна ЧАБАН**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Бацькі хацелі, каб я гаварыла па-беларуску!

З **Нінкай Марціновіч**, лаўрэаткай І месца ў конкурсе «Беларуская гавэнда», самай лепшай вучаніцай пятага класа Пачатковай школы ў Нараўцы, шматгадовай удзельніцай і лаўрэаткай «Роднага слова» гутараць **Уля Марчук і Магда Бляяўская.**

**Уля і Магда:** — ***Мы ведаем, што Ты прымаеш удзел у розных конкурсах. Адкуль у Цябе такія зацікаўленні?***

**Нінка:** — Зацікаўленні з'явіліся ў другім класе пачатковай школы. Я стала вучыцца беларускай мове і так гэта пачалося. Настаўніца прапанавала вершы тым, якія хацелі ўдзельнічаць у конкурсе. Я ахвотна ўзяла вершык і так мне дэкламаванне спадабалася, што я брала наступныя.



**У. і М.:** — ***Хто Табе дапамагае ў падрыхтоўцы да конкурсаў?***

**Н.:** — Мне дапамагаюць мама і настаўніца Анна Кандрацюк.

**У. і М.:** — ***Як выглядае іх дапамога?***

**Н.:** — Верш або прозу падбірае для мяне настаўніца, часам бывае некалькі тэкстаў і трэба паставіць у тэксце націскі. У хаце мама мне іх чытае і мы разам выбіраем. Потым я яго вучуся, а мама правярае. Калі я дрэнна гавару, яна мяне выпраўляе і кажа, як трэба гаварыць, дзе ціха, дзе голасна. У школе я гавару тэкст настаўніцы і яна мне падказвае як можна яго прыгожа сказаць.

**У. і М.:** — ***Колькі часу патрабуеш, каб засвоіць верш ці тэкст на «Гавэнду»?***

**Н.:** — Мне гэта займае два тыдні, але верш магу вывучыць у адзін дзень.

**У. і М.:** — ***Ці Ты хвалюешся перад выступленнем?***

**Н.:** — На самым пачатку, калі я была ў другім і трэцім класах, я хвалявалася. Потым гэта адышло.

**У. і М.:** — ***Ці помніш, якія месцы Ты займала ў конкурсах на працягу гадоў?***

**Н.:** — Першы раз я заняла другое месца ў конкурсе „Роднае слова" ў другім класе. У гэтым годзе заняла першае месца ў конкурсе „Беларуская гавэнда" і трэцяе ў раённым аглядзе „Роднае слова".

**У. і М.:** — ***Кім хочаш быць у будучыні? Можа Ты хочаш выступаць на сцэне?***

**Н.:** — Я вельмі хачу стаць акцёркай, археолагам або мадэльеркай вопраткі, але найбольш акцёркай.

**У. і М.:** — ***Ці Ты ўдзельнічаеш у якіх-небудзь пазаўрочных кружках? Ці сама іх выбіраеш?***

**Н.:** — Я хаджу на заняткі музыкі і тэатральны гурток. На тэатральных занятках мы рыхтуем сур'ёзную п'есу, якую пакажам у школе.

**У. і М.:** — ***Што Ты адчуваеш, калі перамагаеш у конкурсе? Каму першаму пра гэта гаворыш?***

**Н.:** — Калі я выйграю, гавару аб гэтым сваёй сям'і.

**У. і М.:** — ***Што Цябе заахвоціла, каб вучыцца беларускай мове?***

**Н.:** — Пасля заканчэння першага класа я даведалася, што ў нас у школе вядуцца ўрокі беларускай мовы. Мама мяне намаўляла, каб запісацца. Яна мне таксама сказала, што мая бабуля і бацькі гавораць у хаце на беларускай мове і добра было б, каб я таксама разумела і гаварыла.

**У. і М.:** — ***Ці вершы і гавэнды нешта мяняюць у Тваім жыцці?***

**Н.:** — Я сама хацела праверыць свае магчымасці і гэта вельмі мне спадабалася, хаця я лянівая.

**У. і М.:** — ***Чым займаешся ў вольным часе?***

**Н.:** — Я вельмі люблю чытаць кніжкі, а таксама гуляю з сабакам, кошкай і трусікам.

**У. і М.:** — ***Мы ведаем, што ў Тваім класе ёсць некалькі такіх таленавітых вучняў. Якія ў Цябе адносіны да іх?***

**Н.:** — Ёсць у мяне сябар Томэк Харкевіч, з якім мы заўсёды ездзім на конкурсы і часта сабе жартуем, хто з нас зойме гэты раз лепшае месца.

**У. і М.:** — ***Дзякуем за размову і жадаем поспехаў у конкурсах. Маем надзею, што здзейсняцца ўсе Твае мары.***

**Гутарылі Уля Марчук і Магда Бляяўская** — *вучаніцы II класа Гімназіі ў Нараўцы.*

Міра ЛУКША

## Чаромха

*Са сліваў роду,
сямейства ружакветных,
вясновай пагодай
пах свой запаветны
у чэрвені і маі
духмянае дрэва
шчыра распускае.
Пяшчотныя кветкі
у ветру павевах.
Ружовая, белая
галаву дурманіць.
Пчолак ап'янелых
нектарам заманіць.
Іншыя ж казяўкі –
камар, сляпняк, мошка –
гэтым пахам даўкім
аджане з дарожкі.
Як нявеста белая
ў лета ўступае.
Ягадкі ж даспелыя
шчыра раскідае:
смак іх непадробны,
кара ж, лісце, вецце –
дар чаромхі добры,
дзеўкі ў белым квецці.*

## Загадкі з роднай хаткі

**УВАГА КОНКУРС! № 15-16**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 17 красавіка 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Жыве, дзе вільгаць
і трава,
Але і там, дзе суха.
Балота хваліць:
«Ква-ква-ква!»
Адважная к......**

(Ю. Свірка)

**Адказ на загадкі № 11-16: шпак.**

**Узнагароды, кубкі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі Шыман Івановіч, Якуб Голец, Ігнацы Раманюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**

№ 15 [10-04-2016]

# Лаўрэаты прадметных конкурсаў узнагароджаны куратарам

Вучні пачатковых школ нашага рэгіёна не бяздзейныя. Апрача добрых ацэнак, якія атрымліваюць на занятках, ахвотна прымаюць удзел у прадметных конкурсах. Рэкардсмены спаборнічалі між сабою нават у шасці прадметах. У панядзелак 21 сакавіка 21 лепшых вучняў узнагародзіў падляшскі куратар асветы.

Спаборніцтвы, якія ладзіць Падляшская куратoрыя асветы, гэта адны з самых прэстыжных конкурсаў, у якіх маюць магчымасць прымаць удзел вучні пачатковых школ. Вялікая колькасць лаўрэатаў гэта таксама гордасць для дырэктараў і настаўнікаў.

У час урачыстай цырымоніі куратар асветы ў Беластоку Ядвіга Шчыпінь назвала школы, у якіх было найбольш лаўрэатаў прадметных конкурсаў. Сярод іх апынуўся Комплекс школ імя святых Кірылы і Мяфодзія, а таксама Пачатковая школа № 4 у Беластоку. Абедзве асветныя ўстановы вядомыя тым, што вядуць навучанне беларускай мовы. Сёлета як у „чацвёрцы" так і ў „праваслаўнай школе" званне лаўрэатаў атрымалі восем вучняў.



Аднак лаўрэатаў мелі таксама самыя маленькія школы на Падляшшы, у тым ліку ў Новым Корніне, дзе заняткі па беларускай мове багатыя ў цікавую пазападручнікавую праграму. Настаўніца Ніна Куптэль падкрэслівае, што школа зрабіла шэраг крокаў насустрач патрабаванням вучняў, якія з яшчэ большай прыемнасцю ўдзельнічаюць у занятках роднай мовы. З гэтай мэтай наладзіла супрацоўніцтва з рэдакцыяй „Зоркі".

Сёлета званне лаўрэата прадметнага конкурсу па беларускай мове атрымала аж 30 вучняў з усяго Падляшша. Гэта вялікі поспех, тым больш, што па словах старшыні ваяводскай камісіі беларускай мовы Яраслава Падольца, узровень конкурсу з году ў год павышаецца. І гэта бачна, таму што лаўрэаты не толькі выказаліся веданнем беларускай граматыкі і мовы, але перш за ўсё яны маюць моцнае пачуццё ўласнай тоеснасці.

Ева Іванюк, вучаніца гайнаўскай пачатковай школы, беларускую мову лічыць любімым прадметам. Заняткі інспіруюць яе да пазнавання культуры Беларусі, а таксама даследавання мінуўшчыны родных старонак. На яе прыкладзе можна сказаць, што званне лаўрэата прадметнага конкурсу па беларускай мове гэта доказ не толькі таленту, валодання словам, шырокіх ведаў, але таксама патрэбы фармавання ўласнай тоеснасці.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

## Вершы Віктара Шведа



### Адмысловы падзел

Настаўнік запытаў Зосю:
— Скажы мне адмыслова,
Колькі будзе калі восем
Раздзеліш па палове?

Адказвае Зося бойка:
— Калі ўздоўж — дзве тройкі.
А ўпапярок калі —
Дык будуць два нулі.

### Галодны слон

Дырэктар заапарка
Скардзіцца ўжо штодня.
— Ліхая гаспадарка,
А наш слон галодны.

А ларкоў, дзіўота,
З фруктамі шмат новых...
— Выпусці яго ты,
Хто ж слану адмовіць?

## Добры дзень, «Зорка»!

9 сакавіка 2016 года ў Пачатковай школе ў Новым Корніне адбыліся школьныя элімінацыі конкурсу „Роднае слова". Прынялі ў іх удзел вучні IV-VI класаў: Ася Адамюк, Наталля Ляўчук, Аня Рушук, Оля Сідарук, Даменіка Шварц, Зузя Асіняк, Аня Парфянюк, Дамінік Чыжэўскі, Ружа Марчук і Якуб Казімірук.

Мы дэкламавалі вершы беларускіх аўтараў, якія выбралі самі сярод твораў запрапанаваных настаўніцай. У час конкурсу мы вельмі хваляваліся. Кожны хацеў стаць пераможцам і паехаць на раённы агляд.



Нас ацэньвала камісія, якая складалася з трох настаўніц. Яны выбралі найлепшых дэкламатараў. Сталі імі:

— Якуб Казімірук з 6 класа, які гаварыў верш Максіма Танка „Паклон хлебу";

— Дамінік Чыжэўскі з 5 класа, які гаварыў верш Віктара Шведа „Я нарадзіўся беларусам";

— Оля Сідарук з 4 класа, якая гаварыла верш Ларысы Геніюш „Кошчыны імяніны".

Конкурс праходзіў у гімнастычнай зале, гледачамі былі ўсе вучні школы і настаўнікі. Пасля ўрачыстасці ўсе дэкламатары атрымалі ўзнагароды.

Вучні 6 класа:
Давід Адамюк
Оля Чабай
Якуб Казімірук
Ружа Марчук
Вікторыя Анішчук

## Польска-беларуская крыжаванка № 15-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 11:**

Жаба, ода, бусел, лес, журавель, тата, нага, скарб, кроў. Абутак, бура, пасат, Ева, поле, лінк, шаль, ар, го, востараў.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Караліна Лазарэвіч** з Шудзялава, **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Даменіка Сікора** з Міхалова, **Іван Карсунскі**, **Давід Ясюк**, **Якуб Матышэк** з НШ свсв. КіМ, **Ева Анджэйчык**, **Міхал Тапалянскі** з Нарвы, **Марыюш Красько** з Арэшкава. Віншуем!



# Жыццёвы і творчы шлях Алеся Барскага



**«Жыццёвы і творчы шлях АЛЕСЯ БАРСКАГА» — вядучая тэма XXII Алімпіяды па беларускай мове ў Польшчы, якой цэнтральныя спаборніцтвы адбыліся 17 сакавіка ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Прафесар Аляксандр Баршчэўскі (паэтычны псеўданім Алесь Барскі), гэта вядомы наш беларускі літаратар, шматгадовы кіраўнік Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, якая пазней перайменавалася ў Кафедру беларусістыкі, раней старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» і Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У мінулым годзе адзначыў ён 85-годдзе з дня нараджэння і гэта стала прычынай, каб вядучай тэмай сёлетняй алімпіяды, які пачалася ў снежні мінулага года, стаў яго жыццёвы і творчы шлях.**



— Калі я даведаўся, што ёсць прапанова вядучую тэму алімпіяды прысвяціць маёй асобе, я не згаджаўся. Калі ў Галоўным камітэце прагаласавалі мяне і рашыліся даць пытанні па маёй творчасці, я тады запрапанаваў, каб у адной з тэм для сачынення вучні маглі напісаць, што ім падабаецца, а што не падабаецца ў маёй творчасці. Аднак абедзве мае пазіцыі не былі ўлічаны, — сказаў прафесар Аляксандр Баршчэўскі, старшыня Галоўнага камітэта Алімпіяды па беларускай мове ў Польшчы, арганізатарам якой з'яўляецца Кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Нягледзячы на праблемы са здароўем, прафесар Аляксандр Баршчэўскі прыбыў у Бельск-Падляшскі і актыўна працаваў у адной з камісій, якая ацэньвала вусныя выказванні ўдзельнікаў алімпіяды.

— Гэта вельмі добра, што вядучай тэмай Алімпіяды беларускай мовы, якую Вы стварылі і надалей ёй старшынствуеце, — звярнуўся да Аляксандра Баршчэўскага былы настаўнік беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя Васіль Сакоўскі, які працаваў у камісіі алімпіяды, — ёсць тэма наконт Вашай творчасці і Вашага жыцця. Вашы вершы ахвотна чытаюць белліцэісты, яны ім падабаюцца. Добра таксама, калі вучні ўспомняць Вашу вялікую працу ў карысць беларускасці. Вы правялі многа аўтарскіх сустрэч з чытачамі на Беласточчыне, а зараз спатыкаецеся з ліцэістамі, якія маюць магчымасць выказацца на тэму Вашай творчасці.

— Частку сваёй творчасці я прысвяціў родным мне Бандарам і дарагой мне Беласточчыне. У сваіх вершах я заклікаў любіць сваё, беларускае і даражыць Беласточчынай. Беларуская алімпіяда гэта таксама магчымасць зацікавіць ліцэістаў беларускай літаратурай, мовай і жыццём беларусаў тут, на Беласточчыне, — гаварыў прафесар Аляксандр Баршчэўскі. — Вучні, якія прымаюць удзел у цэнтральных спаборніцтвах і перайшлі падвойны адбор, патрапяць размаўляць пра беларускую літаратуру.

Спачатку 16 удзельнікаў алімпіяды (10 гайнаўскіх белліцэістаў, 5 бельскіх і адна вучаніца III Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку) пісалі сачыненне на адну з трох прапанаваных да выбару тэм: 1. «Мы вуды ў радасць закінем»: інтымная лірыка Алеся Барскага. 2. «Мая паэзія — мой абавязак»: вобраз паэта ў творчасці Алеся Барскага і «белавежцаў». 3. «Калі б з душы прагналі рэнегацтва ...»: «белавежцы» пра праблемы беларускага нацыянальнага жыцця на Беласточчыне.



■ Члены камісіі

Вучні выконвалі таксама задачы па граматыцы беларускай мовы. Ліцэістам трэба было ўставіць адпаведныя словы ў сказы, скласці словазлучэнні, утварыць дзеясловы, перакласці тэкст «Гістарычны Полацк» з польскай мовы на беларускую, прымяніць прынцыпы правапісу вялікай і малой літар. Пасля праверкі ў Варшаве сачыненняў і граматычнага тэста і падвядзення вынікаў вуснай і пісьмовай частак алімпіяды аказалася, што лаўрэаткамі сталі тры ліцэісткі: першае месца заняла **Уршуля Сліўко** з Бельска, другое — **Наталля Васько** з Гайнаўкі, а трэцяе — **Аляксандра Белаказовіч** з Бельска. Астатнія 13 удзельнікаў цэнтральнага этапу алімпіяды сталі яе фіналістамі. Уршуля Сліўко раней стала лаўрэаткай алімпіяды расійскай мовы і дабілася добрых рэзультатаў у геаграфічнай алімпіядзе.

— Я раней асабліва не цікавілася творчасцю Алеся Барскага. Аднак калі стала рыхтавацца да алімпіяды, мне вельмі спадабаліся некаторыя яго вершы, асабліва жыццёвыя назіранні паэта, якія прэзентуе ў некаторых творах, — заявіла Уршуля Сліўко. — Тэма кахання, ці некаторыя назіранні наконт жыцця пазачасавыя. Паэт патрапіў прыгожа выявіць свае думкі і эмоцыі.

Наталля Васько — шматразовая ўдзельніца і пераможца конкурсаў «Роднае слова» і «Беларуская гавэнда». Поспехаў дабівалася будучы яшчэ вучаніцай Комплексу школ у Нараўцы. Зараз яна вучыцца ў Гайнаўскім белліцэі і плануе выступіць у конкурсе «Сцэнічнае слова». Наталля — актыўная ўдзельніца Сустрэч «Зоркі», а яе допісы друкуюцца ў «Ніве».

— Мне асабліва падабаецца лірыка Алеся Барскага. Цікавыя яго вершы пра родныя яму Бандары і наваколле. Бандары знаходзяцца непадалёк ад маёй роднай вёскі Тарнопаль, — сказала Наталля Васько, якая любіць удзельнічаць у беларускіх мерапрыемствах.

— Сэрцам я беларуска і таму мне блізкая беларуская літаратура, культура і алімпіяда, — сказала бельская белліцэістка Юстына Марчук.

— Тэмы сачыненняў не былі складанымі. Калі мы ведалі, што вядучая тэма алімпіяды тычыцца паэзіі Алеся Барскага, то рыхтаваліся да гэтай часткі пісьмовай працы перш за ўсё па яго творчасці. Аналізавалі мы яго вершы і знаёміліся з яго біяграфіяй. Выбіралі найчасцей першую або другую тэму для сачынення, — сказалі гайнаўскія белліцэісты, калі рыхтаваліся ўжо да вусных адказаў, а размаўляў я, між іншым, з Наталляй Васько, Ганнай Хомчук, Аннай Бяляўскай, Патрыцыяй Зянкевіч, Аляксандрай Іванюк і Лукашам Марчуком, адзіным алімпійцам у жаночай кампаніі. Першыя дзве тэмы найчасцей выбіралі таксама бельскія белліцэісткі.

Пасля напісання сачыненняў і граматычнага тэста быў аб'яўлены перапынак на абед. Пасля вяртання ў школу вучняў чакалі вусныя адказы. Працавалі дзве камісіі, перад якімі вучні прэзентавалі свае веды па творчасці і жыцці беларускіх пісьменнікаў. Былі таксама пытанні датычныя культурнага жыцця беларусаў Беласточчыны, беларускіх масмедыяў і традыцый мясцовых беларусаў.

— Складаным быў пераклад з польскай мовы на беларускую. Памылкі маглі мы зрабіць таксама ў граматычным тэсце, — гаварылі ўдзельнікі алімпіяды.

— Беларускую літаратуру і беларускую культуру мы лічым нашымі, роднымі. Рыхтуючыся да алімпіяды, мы знаёмімся з імі, — сказалі вучаніцы Магдалена Міхалевіч і Аляксандра Белаказовіч.

— Мы прыступілі да алімпіяды, каб паспаборнічаць з іншымі вучнямі, праверыць свае веды і ўмеласці па беларускай літаратуры і мове. Важнае для нас стаць хаця б фіналістамі, бо тады не трэба будзе нам прыступаць да матуральнага экзамену па беларускай мове і атрымаем па гэтым экзамене максімальную колькасць балаў, — гаварылі белліцэісты.

Частка ўдзельнікаў алімпіяды будзе паступаць у вышэйшыя ўстановы на гуманітарныя аддзяленні. Вучаніца III Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку Юліта Тымашэвіч заявіла, што хацела б працягваць вучобу на расійскай або беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце. Асабліва ў Варшаўскім універсітэце ёсць многа прапаноў для лаўрэатаў і фіналістаў беларускай алімпіяды. Ва Універсітэце ў Беластоку паўстае спецыяльнасць беларуская этнафілалогія, якая таксама запрашае белліцэістаў.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Кветка з Манголіі



**Экзотыка (гр. eksotikos = далёкі, чужаземны) — сукупнасць характэрных прадметаў, з'яў, рыс, уласцівых далёкім краінам, раёнам (напр. незвычайная прырода, звычаі, мастацтва паўднёвых краін з пункту гледжання жыхароў поўначы) — так тлумачыць „Слоўнік іншамоўных слоў". За экзотыкай людзі часта адпраўляюцца ў далёкія краіны, але бывае, што экзотыка сама завітвае да нас...**

Цэліна і Багдан Каліты жывуць у самым цэнтры Гайнаўкі. Цэліна — гэта мірское польскае імя. А я цікаўлюся арыгінальным імем ураджэнкі далёкай Манголіі...

— Цэцэг — адказвае гаспадыня.

**— Багдан па-польску, гэта „даны Богам", а што па-мангольску абазначае Цэцэг? — пытаю.**

— Кветка. А па-польску найбліжэйшае па гучанню імя Цэліна.

**— А якім чынам Вы трапілі ў Гайнаўку?**

— Я працавала на дрэваапрацовачным заводзе. Быў тады такі абмен, што мы прыязджалі ў Польшчу, а з Польшчы ехалі да нас. Тады з Манголіі прыехала ў Польшчу бадай дваццаць пяць асоб, якіх у Варшаве размеркавалі па розных польскіх заводах. Я і два мае калегі трапілі ў Гайнаўку.

— Мне давялося стаць апекуном гэтай групкі. Я тады працаваў у Доме культуры інструктарам і маёй задачай стала азнаямленне гасцей з культурнай прапановай Гайнаўкі. Ну і так я азнаёміў...

**— Доўга Вы тады былі ў Гайнаўцы?**

— Прыехалі ў лістападзе, а выехалі пасля праваслаўных Каляд. Згулялі разам Сільвестра ў „Лесніку". А пасля ўсе практыканты з'ехаліся ў Варшаву і разам паехалі ў Манголію.

**— Вы прыязджалі поездам. Колькі трэба ехаць з Манголіі ў Польшчу?**

— З Варшавы ў Маскву паўтары сутак, а з Масквы ва Улан-Батар пяць з паловай сутак.

**— Значыць — сем сутак, цэлы тыдзень. Але вы тут пазнаёміліся і гэтае знаёмства мела свой працяг...**

— Мы пісалі сабе лісты і пасля я запрасіла Багдана ў Манголію, каб там аформіць шлюб.

**— Дзе Вы жылі ў Манголіі?**

— У сталіцы.

**— І там быў дрэваапрацовачны завод?**

— Так. Там працавалі палякі...

**— Палякі?..**

— Так; завод пабудавалі польскія спецыялісты. Ён выраблаў вокны, дзверы, быў таксама мэблевы цэх.

**— Я пацікаўлюся крыху іншым бокам мангольскага жыцця. У замежных медыях я чытаў, што з уваходам у Манголію рыначнай эканомікі жыхары краіны сталі па-сур'ёзнаму цікавіцца прыбыткам. Раней вялікая частка вясковай маёмасці была супольнай уласнасцю абшчын, быццам у калгасе.**

— Так было, дзе частка дабытку была супольнай, але паасобныя сем'і мелі і свае ўласныя статкі жывёл: авечкі, козы, каровы, коні, на пустыні Гобі свае вярблюды. І дзяржава купляла сельскагаспадарчыя вырабы. Аднак з дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя размеркаваннем сваёй вытворчасці заняліся самі жывёлаводы. Ладзяцца кірмашы. Гэта, вядома, спарадзіла дыферэнцыяцыю насельніцтва, не ўсе аднолькава справіліся з канкурэнтнасцю.

**— У мяне склалася — на аснове розных інфармацый — уражанне, што жыхары Манголіі з'яўляюцца шчырымі і добразычлівымі людзьмі. Ці ўваход рыначнай эканомікі не сапсаваў іхніх такіх станоўчых прымет?**

— Вядома, што гэтая з'ява адмоўна падзейнічала на ўзаемаадносіны паміж людзьмі.

**— Вы самі жылі ва Улан-Батар. А ці Ваша сям'я таксама жыла ў сталіцы, ці прыехала туды з правінцыі?**

— Мы жылі ва Улан-Батар, мой тата працаваў машыністам на чыгунцы.

**— І далёка ездзіў?**

— У прынцыпе толькі ў межах краіны. Але ў Расію таксама ездзіў. А раней бацька працаваў на шклозаводзе, які таксама пабудавалі польскія спецыялісты. І тады таксама прыязджаў у Польшчу.

**— Мяне гэта радуе, што польскія спецыялісты ўнеслі шмат у развіццё мангольскай эканомікі. Я думаў што там будавалі толькі саветы.**

— Яны там трымалі галоўным чынам толькі войска, — уключаецца пан Багдан.

**— Так як і ў нас. Я яшчэ спытаю пра мангольскую вёску, бо ў тэлебачанні, калі паказваюць нешта з Манголіі, гэта найчасцей конныя спаборніцтвы. Гэта ж на конях колішняя мангольскія заваёўнікі прыехалі ў Еўропу. Ці ў Манголіі разводзяць многа коней?**

— Так. І гэта пародзістыя коні, на якія попыт у замежжы, напрыклад у Канадзе. У нацыянальнае свята ладзяцца конныя спаборніцтвы ў сталіцы і ў іншых цэнтрах; таксама спаборніцтвы па дужанню, канцэрты. Прыязджаюць турысты.

**— Адкуль турысты?**

— Многа з Германіі.

**— А не з Японіі?**

— І з Японіі, шмат прыязджае з Карэі.

**— А ці ёсць у Манголіі цэнтры зімніх спортаў. Бо ж Улан-Батар з'яўляецца бадай найхалоднейшай з усіх сталіц.**

— Ёсць, з лыжнымі ляўдкамі.

**— А ці далёка яны ад сталіцы?**

— Не, недалёка.

**— А недзе ў Алтаі?**

— Туды трэба было б лятаць самалётам, там казахі жывуць.

**— Казахі і уйгуры. Ці яны адметныя ад манголаў?**

— Не, не надта. Напрыклад казахі п'юць гарбату з соллю, мы солім крыху менш.

**— Я цяпер крышку спытаю пра алфавіт. Цяпер мангольская мова карыстаецца кірыліцай. Але раней манголы мелі вельмі цікавы і арыгінальны алфавіт і даўнія мангольскія тэксты выглядалі быццам калоны стройных ёлачак. Ці ў школах вядзецца навучанне даўняму мангольскаму алфавіту?**

— Былі спробы, але яны не прыняліся.

**— Колішні мангольскі алфавіт выпрацавалі верагодна манахі, будыйскія ламы. Як выглядае рэлігійнасць у Манголіі?**

— У час маёй маладосці рэлігійнасць была прыхаваная. Мая цётка была веруючай і яна канспіравалася са сваёй рэлігійнасцю. Мы хадзілі ў храмы, але як у музей. Цяпер рэлігійнае жыццё аднаўляецца, паяўляюцца таксама новыя канфесіі, напрыклад баптысты.

**— Калісь Улан-Батар, які тады называўся Урга, быў буйным манаскім цэнтрам. Ці ў сталіцы захаваліся даўнія храмы, пагады?**

— Так, яны абноўлены, пабудаваны таксама новыя храмы.

**— Калі я вучыўся ў ляўкоўскай пачатковай школе, яе загадчык Рыгор Каролька расказваў нам, што тадышні першы сакратар Партыі Уладыслаў Гамулка, калі заехаў у Манголію і наведваў тамашнюю пагаду, перад уваходам у храм разбуўся. Гэта ставілася нам у прыклад культурных паводзін і пашаны да народнай спадчыны...**

— Але такога звычаю ў пагадах няма. Можна зняць абутак, але неабавязкова.

**— Можа на падлозе ляжалі дываны...**

— Так, у пагадах ляжаць дываны, але абутку можна не скідаць. Ламы моляцца седзячы навокал у лаўках, і можна туды заходзіць, запаліць лампадку, заказаць малітву, ахвяраваць грошы...

**— Я яшчэ вярнуся да Вашых пачаткаў. Ці складана было ўзяць Вам шлюб?**

— У Манголіі было звычайна, патрэбныя былі толькі перакладзеныя польскія дакументы. Больш складана было ў Польшчы, бо наш шлюб быў бадай другім мангольска-польскім у маштабе краіны, а першым у ваяводстве і чыноўнікі былі крыху азадачаны. Спярша жылі мы ў Манголіі. Разам у Польшчу прыехалі ў маі 1987 года, ужо з дачкою, якая нарадзілася годам раней.

**— З таго часу колькі разоў былі Вы на сваёй Радзіме?**

— Складана падарожнічаць з малымі дзецьмі. Калі памёр тата ў 1989 годзе, я паехала з найстарэйшай дачкою.

**— А малодшыя дзеці яшчэ ў Манголіі не былі?**

— Яшчэ не. І яшчэ раз сама ездзіла. А пасля з мужам у 2011 годзе.

**— А Вашы сямейнікі наведвалі Вас тут?**

— Так; мама з татам былі двойчы, мама была яшчэ раз, як сын нарадзіўся. Ну і брат з жонкай таксама былі тут.

Спадар Багдан выканаў альбом з выкананымі ў Манголіі здымкамі. Заўважаю юрты:

**— Ці ў сталіцы ёсць юрты?**

— Ёсць, ёсць. Нават прэзідэнт мае сваю юрту, у якой прымае афіцыйных гасцей. Людзі, якія ў выніку эканамічных і дэмаграфічных працэсаў перабраліся ў сталіцу, прывезлі за сабою і юрты. У прыгарадах Улан-Батара толькі юрты.

**— У Манголіі, верагодна, вельмі суровыя зімы...**

— Маразы там сцюдзёныя, але гэтага так не адчуваецца як у нас, таму што там сухі клімат. Але глабальнае пацяпленне адчуваецца і ў Манголіі. Шмат там цяпер камароў, паяўляюцца кляшчы, якіх там раней не было.

**— Значыць — Манголія не такая ўжо і экзатычная... А я дзякую Вам за размову і жадаю ўсяго добрага.**

**Размаўляў і сфатаграфаваў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

* * *

Варта дадаць, што вялікі ўклад у азнаямленне еўрапейцаў з Манголіяй унёс наш зямляк Іосіф Кавалеўскі, народжаны ў 1800 годзе ў Вялікай Бераставіцы, што каля дзесяці кіламетраў за Крынкамі. Вучыўся спярша ў Свіслацкай гімназіі, а пасля паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Там ён узяўся за вывучэнне старажытных моў і класічнай літаратуры. У 1817 годзе па рэкамендацыі Адама Міцкевіча Іосіф Кавалеўскі ўступае ў Таварыства філаматаў, дзе знаёміцца з Тамашам Занам і Янам Чачотам. У 1824 годзе Кавалеўскага ссылаюць у Казанскі ўніверсітэт, афіцыйна дзеля вывучэння ўсходніх моў. Там ён склаў татарска-рускі слоўнік, стаў вывучаць арабскую і персідскую мовы. У 1828 годзе наш зямляк выязджае ў Іркуцк, адкуль ладзіць навуковыя экспедыцыі ў Забайкалле, Манголію, Кітай, вывучаючы шырокі бытавы і культурны дыяпазон жыцця тамашняга насельніцтва. Сабраў там амаль сто дзевяноста мангольскіх і тыбецкіх кніг, якія адправіў у Казань. Вярнуўшыся ў 1833 годзе ў Казань, Іосіф Кавалеўскі заснаваў там кафедру мангольскай мовы ды напісаў падручнікі для сваіх студэнтаў. У 1835 годзе ён выдаў „Кароткую граматыку мангольскай мовы", а ў наступным „Мангольскую хрэстаматыю". У 1837 годзе напісаў „Будыйскую касмалогію". Пасля ён склаў трохтомны „Манголаруска-французскі слоўнік", апублікаваны ў другой палове 1840-х гадоў. Гэта былі фундаментальныя працы не толькі лінгвістычнага характару і Кавалеўскага з ходам часу выбіраюць у члены навуковых таварыстваў Масквы, Парыжа і Лондана. Памёр Іосіф Кавалеўскі ў 1878 годзе ў Варшаве.

# Акт 25 Сакавіка — палітычна-дзяржаўнае самавызначэнне.

Выступленне старшыні Беларускага Саюза ў Польшчы з нагоды 98 гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў час святкаванняў у Беластоку 31 сакавіка 2016 года.

**Шаноўнае Спадарства**

Сардэчна вітаю ўсіх на ўрачыстых святкаваннях дзевяноста восьмай гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Сустракаемся ў вельмі трывожным і неспакойным перыядзе для ўсяго чалавецтва ва ўсіх сферах нашага жыцця, як у яго грамадска-палітычна-эканамічным вымярэнні, так і ў маральна-духоўным аспекце. Назіраючы за тымі ўсімі падзеямі, узнікае штораз больш пытанняў наконт далейшай будучыні паасобных народаў, дзяржаў, веравызнанняў, вайны і міру. І як нам, беларусам, у гэтым хісткім свеце не зняверыцца ў сваё і надалей цвёрда адстойваць беларускія справы — самыя важныя для нас і наступных пакаленняў.

Каб падмацавацца ў нацыянальнай непахіснасці, узгадайма той час і тыя абставіны, у якіх нараджалася Беларуская Народная Рэспубліка ў пачатках дваццатага стагоддзя. Смерць і голад заглянулі ў вочы мільёнам людзей у перыяд Першай сусветнай вайны і бальшавіцкага перавароту. Усе гэтыя цярпенні спасцiглі і нас, беларусаў Беласточчыны — ахвяр вымушанага бежанства 1915 года. Аднак нягледзячы на гэтыя абсалютна неспрыяльныя ўмовы, нашы продкі мелі адвагу і сілу духу кінуць выклік імперскім памкненням нашых суседзяў з усходу і захаду. І хаця тады незалежная беларуская дзяржава не пратрывала, але яна пераарыентавала мышленне нашых продкаў і наступных пакаленняў з этнаграфічна-фальклорных катэгорый да палітычна-дзяржаўнага самавызначэння. Менавіта Акт 25 сакавіка 1918 года назаўсёды пасяліў у беларускіх душах і памкненнях прагу і права на свабоду і незалежнасць.



У гэтым мы перш за ўсё абавязаны нашым продкам, іхнім тадышнім палітычным запаветам. Праз два гады будзем святкаваць сотую гадавіну абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Ужо зараз Польшча і іншыя незалежныя дзяржавы цэнтральна-ўсходняй Еўропы распачалі маштабную падрыхтоўку да ўрачыстых святкаванняў адраджэння сваіх краін стагоддзе таму назад. Нам застаецца спадзявацца і верыць, што палітычная дальнабачнасць прымусіць нават цяперашнія ўлады прызнаць Акт 25 сакавіка 1918 года асновай для пабудовы беларускай дзяржаўнасці і незалежнасці ў дваццатым і наступным стагоддзях. Менавіта гэтая дата павінна быць падмуркам нацыянальнай згоды і еднасці. Калі кіруючым не хопіць гэтага ўяўлення і адказнасці, то рахунак выстаўлены гісторыяй за такі падыход можа прынесці нашаму народу чарговыя здзекі і пакуты. Зараз ёсць добрая нагода, каб кіраўніцтву Беларусі адклікнуцца да повязі часоў і стагоддзяў. Абвяшчэнне дваццаць пяць гадоў таму назад, у 1991 годзе, акту суверэнітэту і незалежнасці сённяшняй Рэспублікі Беларусь дае шмат магчымасцей, каб прызнаць ідэі БНР і ейную сімволіку, а людзей, якія выходзяць на вуліцы змагацца за іх, палічыць патрыётамі Бацькаўшчыны, а не ворагамі, якім няма месца ў сваёй краіне, прыгаворанымі на пакаранне і эміграцыю. Без гэтага застанецца толькі званне хамскай і антыбеларускай улады, бо, на жаль, у нашай памяці і перад вачыма стаць здарэнні дваццацігадовай даўнасці, калі вясною 1996 года ў Менску мелі месца жорсткае, зверскае збіванне і катаванне сотняў мірных дэманстрантаў у час акцый з нагоды Дня Волі і Чарнобыльскага шляху. Дваццаць гадоў таму назад Аляксандр Лукашэнка вырашыў выкараніць кволыя парасткі беларускай дэмакратыі, а пры нагодзе раскалоць, падзяліць народ. Разгон дзесяць гадоў таму Плошчы 2006 года і пераслед перш за ўсё яе маладых удзельнікаў быў паслядоўнасцю і заканамернасцю ранейшых рашэнняў.

У 2016 годзе прыпадае шмат іншых знамянальных дат і падзей для беларускай справы ў Беларусі і Польшчы. Усіх тут не месца пералічваць. Хачу ўзгадаць толькі адну. Менавіта неўзабаве, у красавіку, будзем мець дачыненне да саракавой гадавіны чарнобыльскай катастрофы, якая паклала свой адбітак не толькі на нашай гісторыі, але і на медычна-генетычнай форме ўсёй нацыі. Маштаб гэтай трагедыі і яе паслядоўнасці так па-сапраўднаму да канца не расследаваны і кладуцца вялікай невядомасцю на будучыні. Званы Чарнобыля звоняць надалей і асцерагаюць перад неадказнай гульнёю ў атамныя электрастанцыі.

Затое званы ў храмах нагадваюць нам пра крохкасць і кароткачасовасць нашага жыцця, і пра развітанні з нашымі блізкімі, сябрамі, паплечнікамі. Пазаўчора на вечны спачын адышоў ад нас Ніл Гілевіч —




# http://panchanka.ru

Напрыканцы сакавіка не стала апошняга Народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Для многіх, у тым ліку аўтара гэтага артыкула, яго імя сімвалізавала плеяду выдатных беларускіх паэтаў савецкага часу, якія з набыццём незалежнасці Беларусі арганічна ўпісаліся ў новыя рэаліі. Такі натуральны пераход адбыўся таму, што яны стаялі на пазіцыях беларушчыны, былі заклапочаныя станам беларускай мовы, супраціўляліся духоўнаму заняпаду свайго народа. І хоць за савецкім часам было шмат ілжы і хлусні, званне Народнага паэта для такіх як Ніл Гілевіч цалкам адпавядала іх велічэзнаму ўкладу ў культуру беларусаў.

Роўна 21 год таму, 2 красавіка 1995 года, пайшоў з жыцця яшчэ адзін Народны паэт Беларусі — Пімен Панчанка. Яго вершы ўваходзяць у праграму навучання школьнікаў, але значна цікавей чытаць іх людзям дарослым, якія, дзякуючы жыццёваму досведу, больш разумеюць іх глыбокі сэнс.

У межах праекта „Нацыянальны паэтычны партал" некалькі гадоў таму ў сусветным павуцінні з'явіўся сайт, прысвечаны жыццю і дзейнасці Пімена Панчанкі. Ён месціцца па адрасе **http://panchanka.ru** і ўяўляе даволі спакойнае, але ў той жа час прывабнае чорна-белае выяўленне, у нечым падобнае на мемарыяльны комплекс. Уверсе размешчаны здымак нейкага возера ці рэчкі з дрэвамі і хмызняком на крутых берагах. Ніжэй партрэт паэта, выкананы ў выглядзе гравюры, словы вітання і верш Уладзіміра Караткевіча, прысвечаны Панчанку. „Якая веліч, сіла і... журбота!/ Як добра, ўзьняўшы дымны, зорны сьмерч,/ У імгненьне найвышэйшага ўзьлёту/ У лікаванні раптам стрэнуць сьмерць", — пісаў Караткевіч, які памёр на 11 гадоў раней за свайго сябра.

Але не толькі аб сумным ходзіць на сайце. Калі, напрыклад, зазірнуць у рубрыку „Жыццяпіс", то можна здзівіцца, якім цікавым было жыццё паэта. Так, Пімен Панчанка нарадзіўся ў 1917 годзе ў Эстоніі, куды бедная сям'я выехала ў пошуках лепшай долі. Праўда, праз тры гады яны вярнуліся ў Савецкую Беларусь. Потым у будучага Народнага паэта была настаўніцкая і журналісцкая дзейнасць. У часы апошняй вайны ён працаваў у франтавых газетах, потым абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі. У 1973 годзе атрымаў званне Народнага паэта, а ў 1989 — стаў сябрам Беларускага ПЭН-цэнтра.

Займаўся Пімен Панчанка і перакладчыцкай дзейнасцю — пераклаў на беларускую мову, у прыватнасці, творы польскіх, латышскіх, рускіх літаратараў. Але ў гісторыю беларускай літаратуры ён увайшоў менавіта як паэт.

З вялікім пералікам вершаў Панчанкі можна пазнаёміцца ў рубрыцы „Вершы". Кожная назва твора адначасова з'яўляецца гіперспасылкай на яго. Усяго ж такіх гіперспасылак некалькі соцень. Размешчаны яны ў алфавітным парадку, праўда, першай чамусьці ідзе літара „І".

Рубрыка „Бібліяграфія" змяшчае назвы зборнікаў, выдадзеных пры жыцці Пімена Панчанкі. Там жа падаюцца гады іх выдання, і распавядаецца, што многія яго вершы пакладзены на музыку.

Пазнаёміцца з літаратурнай крытыкай твораў паэта можна ў рубрыцы „Рэцэнзіі і аналіз". Яна ідзе апошняй і змяшчае чатыры артыкулы на даную тэму. Апошні адлюстроўвае неабыякавае стаўленне Панчанкі да маральнага стану моладзі канца 80-х — пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, якую ён называе дзецьмі, недагледжанымі Богам, бацькамі і ўласна ім.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

Беларускі змагар і мецэнат

# 120 гадоў з дня нараджэння Васіля Русака



Беларускі нацыянальны дзеяч, выдавец, прадпрымальнік, удзельнік Слуцкага збройнага чыну Васіль Русак нарадзіўся 4 сакавіка 1896 г. у вёсцы Ячава (цяпер Слуцкі раён). Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне ў чыне прапаршчыка на Паўночным фронце. У 1917 г. увайшоў у Беларускую сацыялістычную грамаду, быў адным з лідараў Беларускай рады беларусаў-вайскоўцаў Паўночнага фронту, удзельнік Беларускага вайсковага з'езда ў Віцебску, Усебеларускага кангрэса ў Менску. У пачатку 1918 г. працаваў у Беларускім камітэце Воршы, пазней вяртаецца на Случчыну, уключаецца ў дзейнасць культурніцкай арганізацыі „Папараць-кветка". З траўня 1918 г. у Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, уваходзіў у ЦК. Увосень таго ж года арыштаваны немцамі, пасля вызвалення ў снежні — адзін з арганізатараў „Саюза абароны краю". З прыходам бальшавікоў працаваў у валасных ды вясковых установах павета як выбраны ад сялянства, адначасна займаўся нацыянальна-культурнай працай.

У сакавіку 1919 г. Русак арыштаваны бальшавікамі, але праз месяц без выстаўлення абвінавачання выпушчаны пад заклад 3 тыс. рублёў, якія сабралі мясцовыя сяляне. Усё лета хаваўся ад ЧК у сялянскіх хатах. У час польска-савецкае вайны актыўны ўдзельнік антыпольскага падпольнага руху, сябра Слуцкага Беларускага нацыянальнага камітэта, кіраваў беларускім хорам „Папараць-кветкі", разам з яе драматычнай дружынай ездзіў па павеце са спектаклямі, у якіх браў удзел як артыст пад псеўданімам Базыль Карусь.

У ліпені 1920 г., з вяртаннем савецкае ўлады, мабілізаваны ў Чырвоную Армію, адбываў службу ў Слуцку. У лістападзе 1920 г., у час з'езда Случчыны, абраны ягоным старшынёй, увайшоў у склад прэзідыума Рады Случчыны. У час Слуцкага паўстання — камандзір 2-га Грозаўскага палка. У 1921 г. — інструктар Беларускай вайсковай камісіі, нелегальна вёў эсэраўскую агітацыю сярод беларускага батальёна БВК і беларускага сялянства Баранавіцкага павета.

Ратуючыся ад польскае дэфензівы, у траўні 1922 г. у Коўне займаўся арганізацыяй партызанскіх атрадаў на Віленшчыне супраць палякаў, быў звязаны з літоўскімі стралецкімі арганізацыямі. У канцы таго ж года па рэкамендацыі прадстаўніцтва БНР у Коўне выехаў на вучобу ў Чэхаславаччыну, увосень 1923 г. паступіў у Пражскую вышэйшую тэхнічную школу на аграномічны факультэт. Актыўна ўдзельнічаў у жыцці беларускае эміграцыі, адзін з кіраўнікоў Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый за мяжой. Працаваў у Беларускім (Крывіцкім) культурна-асветным таварыстве імя Скарыны, супрацоўнічаў з часопісам „Перавясла". Пасля застаўся жыць у Празе. Ажаніўся з чэшкай, стаў прадпрымальнікам. У 1931 г. узначаліў Пражскі Беларускі нацыянальны камітэт. Быў фундатарам розных выданняў і культурніцкіх фэстаў. Летам 1939 г. выдаў па-нямецку брашуру „Bielarus-Weissruthenien" з этнаграфічнай картай Беларусі. З дапамогай А. Жука выдаў паштоўкі з гербам Пагоня. У час нацысцкай акупацыі Прагі хаваў у сябе дзве габрэйскія сям'і, дапамог ім атрымаць пасведчанні, што яны беларусы.

Летам 1945 г. арыштаваны ў Празе савецкай контрвыведкай за „антысавецкую дзейнасць у эміграцыі". 2 чэрвеня 1946 г. Ваенным трыбуналам войск Міністэрства ўнутраных спраў Беларускай вайсковае акругі засуджаны да 10 гадоў канцлагера. Памёр у зняволенні 23 жніўня 1954 г.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

апошні з вялікіх пісьменнікаў са званнем народнага. Раней адышлі Васіль Быкаў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, а зараз — Ніл Гілевіч. Яны — сімвалы і апірышчы беларускасці, а таксама аўтарытэты і нам, беларусам Беласточчыны, і нашы заступнікі. Усе яны былі вельмі добра азнаёмлены з нашымі справамі і асобамі — з некаторымі асабіста, з некаторымі завочна.

Знаёмства і сябраванне адбывалася найперш дзякуючы „Ніве", якая ўжо шэсцьдзясят гадоў трымае званне беларускага тыднёвіка. Менавіта „Ніва" і яе рэдакцыя, карэспандэнты, супрацоўнікі стараліся і стараюцца сваёй працай даць нам, беларусам Беласточчыны, пачуццё нацыянальнай адметнасці і годнасці, пераказаць самую важную ў такім выпадку зброю — веды, мову і пачуццё агульнабеларускай еднасці. Георгі Валкавыцкі, Віталь Луба, Яўген Міранович як галоўныя рэдактары са сваімі журналістамі па меры фінансавых і арганізацыйных магчымасцей не толькі паслядоўна апісвалі нашу беларускую нацыянальную меншасць, але стараліся інспіраваць яе самаарганізацыю. Падзяка, пашана і павага ўсім людзям „Нівы" на працягу гэтых 60-ці гадоў — яе працаўнікам і чытачам.

Невыпадкова на старонках гэтай газеты друкаваліся ўспаміны беларусаў Беласточчыны аб бурлівых падзеях дваццатага стагоддзя. Трагічныя польска-беларускія дачыненні пасля Другой сусветнай вайны ўпершыню былі запісаны менавіта журналістамі „Нівы". У гэтым годзе адзначаем сумную, сямідзясятую, гадавіну пацыфікацыі беларускіх вёсак Падляшша. Дзякуючы сямейнай памяці, запісам журналістаў, радыё- і тэлерэпартажам, працам гісторыкаў, грамадскім ініцыятывам, захаванне і ўшанаванне памяці пра тыя падзеі набыло агульнагрaмадскі і агульнабеларускі характар. Хаця сёння некаторыя польскія сілы надалей хочуць адмяніць гістарычную праўду пра тыя падзеі і зняславіць наш беларускі пункт гледжання, то зробленае зараз намі назаўсёды застаецца ў спадчыну наступным пакаленням.

Нашым і наступным пакаленням напэўна будзе служыць планаванае ў гэтым годзе, дзякуючы ініцыятыве аб'яднання „АБ-БА", а напісанае сябрамі Беларускага гістарычнага таварыства, выданне падручніка па гісторыі беларусаў Падляшша. Напэўна ў гэтай працы знойдуцца і радкі, прысвечаныя ўдзелу беларусаў Беласточчыны ў час абвяшчэння Акту 25 сакавіка 1918 года і змагання за яго ажыццяўленне.

Таму хочацца спадзявацца, што праз два гады стагоддзе абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі будзем адзначаць як агульнадзяржаўнае свята.

**Жыве Беларусь!**

## Дарога цераз лес

Улады Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета дбаюць пра дарогі. 30 сакавіка гэтага года ехаў я роварам з Новага Ляўкова ў Нарву цераз Бярнадскі Мост (у маёй вёсцы называюць яе Бэрнадзкім Мостам, а тамашнюю ваколіцу — Бэрнадчынай) і далей каля вёскі Падбаравіска. Гэтай дарогай ехаў я два гады таму. Зараз яна вельмі змянілася. За Падляўковам павярнуў я ў напрамку вёскі Бярнадскі Мост. На скрыжаванні дарог убачыў я ўказальнік з надпісам „Bernacki Most 5".

Крыху далей еду ўжо лесам і бачу, што гравійка не такая як была раней. Мастаная даволі шырокая ды роўная, гладкая і... не шэра-аранжавая, а цёмна-шэрая быццам асфальт. Як гэта? І пад коламі яна не шуршыць. Не відаць дробных каменьчыкаў. А можа гэта і сапраўды асфальт, падумаў я і, каб лепш агледзець, саскочыў з ровара. Штурхнуў я па мастаной кіёчкам. Яна цвёрдая, не паддаецца, але ўсё ж не такая цвёрдая як асфальтавае палатно. Цяпер ехаць па гэтай пушчанскай дарозе ў Бярнадскі Мост любата!

За Бярнадскім Мостам павярнуў я ў бок Крыніцы. Гэтая вёска належыць да Нараўчанскай гміны. Увесь час дарога такая ж роўная ды моцна ўбітая. Разглядаюся на бакі. Сям-там галоўную дарогу перасякаюць іншыя дарогі. Дарожных указальнікаў няма, а я памятаю, што раней — было гэта ў мінулым стагоддзі і я тады ездзіў на ровары ў нарваўскую школу, у якой вучыў дзяцей. А вядома ж, у лесе каго спытаеш, куды вядзе тая ці іншая дарога. Ехаў я на 10-кіламетровым адрэзку дарогі цераз лес і нікога не сустрэў. Каля Падбаравіска паімчаўся на матацыкле толькі адзін малады мужчына.

За Крыніцай (яе відаць воддаль ад дарогі) — вёсачка Падбаравіска. Тут Нараўчанская гміна мяжуе з Нарваўскай. І ехаць стала яшчэ лепш, бо... па сапраўдным асфальце! Я ўзрадаваўся. Радасць мая была кароткая. Таго асфальту... 250 метраў. Еду ў напрамку Крыўца ўжо па жвірыстай дарозе і круціць педалі куды цяжэй. У Крыўцы і ад вёскі да шашы асфальт. Далей ваяводскай дарогай дабіраюся ў Нарву.

На другі дзень, 31 сакавіка г.г. спытаў я чыноўнікаў Гміннай управы ў Нараўцы пра новую гравійку з Падляўкова ў Крыніцу. Сказалі мне, што тут змяшалі жвір з глінай. Вось такую больш-менш сумесь прымянілі. І, як аказалася, з такога спалучэння атрымалася трывалая, гладкая як стол, маставая.

## Тут традыцыя не загіне



Зараз у перыяд падрыхтоўкі да вялікодных святаў у Нараўчанскай гміне арганізавалі майстар-класы малявання ды іншых спосабаў упрыгожвання яек у вясковых святліцах у Нараўцы, Старым Ляўкове і ў Семяноўцы. Заняткі для дзяцей, моладзі і старэйшых вялі Марыя Рээнт, Нэля Харкевіч і Крыстына Паскробка.

У Семяноўцы на занятку прыйшло трыццаць асоб. І тут удзельнікам майстар-класаў спатрэбіліся больш за тры гадзіны. Усе ахвотна шмат папрацавалі і шмат чаму навучыліся. Было цікава. Мерапрыемства арганізавала Галіна Панкоўская. У Семяноўцы быў ніўскі фотакарэспандэнт.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## XIII Віртуальныя гуслі

Рушыў XIII выпуск інтэрнэт-плебісцыту «Віртуальныя гуслі». Галасаванне на найлепшую фольк-кружэлку 2015 года пачалося 18 сакавіка і закончыцца 30 красавіка апоўначы. Інтэрнаўты і слухачы маюць магчымасць выбраць з васьмідзесяці альбомаў фольк-музыкі найпрыгажэйшы, на сваю думку, кампакт-дыск, а таксама вокладку пласцінкі. Пераможцы плебісцыту не ўзнагароджваюцца каштоўнымі рэчавымі ўзнагародамі, адно лаўрэат штогод атрымлівае ганаровую сімвалічную статуэтку гусляў. Варта прытым адзначыць, што лаўрэатам першага выпуску плебісцыту ў 2003 годзе была... «Чарамшына», а перамагла за кружэлку «Hulaj, póki czas». Сярод удзельнікаў плебісцыту ў выніку жараб'ёўкі будуць размеркаваны ўзнагароды. Затым варта паспяшацца.

Галасаваць можна на сайце **http:// www.gesle.folk.pl**

А пры нагодзе хачу паінфармаваць, што сёлетні XXI Фольк-фестываль шматлікіх культур і народаў «З вясковага панадворка» ў Чаромсе адбудзецца 22-24 ліпеня 2016 г. на пляцоўцы побач Гміннага асяродка культуры. Сардэчна запрашаем любіцеляў фолькавай музыкі.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. народны сярэднеазіяцкі пясняр = 10 _ 27 _ 26 _ 19 _;
2. мучны выраб з рэдкага цеста спечаны на патэльні = 13 _ 14 _ 1 _ 2 _;
3. жыхар Рыо-дэ-Жанейра = 24 _ 7 _ 6 _ 28 _ 20 _ 25 _ 34 _ 35 _;
4. гарадок між Браславам і Ігналінам = 9 _ 17 _ 5 _ 4 _ 22 _;
5. рэмень, паясная папруга = 32 _ 33 _ 23 _ 18 _ 3 _;
6. авечы нутраны тлушч = 21 _ 8 _ 11 _;
7. народ = 16 _ 37 _ 36 _ 15 _ 12 _;
8. прычаліў да Арарата = 29 _ 30 _ 31 _.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | | 2 | 3 |
| | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 12 нумара**

Горад, курсант, буклет, дзеяслоў, рота, оптыка, яхта, сеанс, метыс, бубен.

Рашэнне: **Тады будзе пост, як не стане хлеба**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 10.04 — 16.00

**(22.03. — 20.04.)** Усе негаццыцы пойдуць па-твойму. Выклічаш уражанне таксама на кіраўніцтве, і на кімсьці яшчэ. Будзеш сам вырашаць аб сітуацыях. Вялікае шчасце Бараноў у старых парах. Да 13.04. можаш атрымаць нечаканую прапанову цікавага занятку. І пабушуй у крамах — добрая пакупка будзе служыць табе доўгія гады. Цікуюць выпадкі і кантузіі, ды ўсё можа кончыцца толькі на царапінах ці сіняках. Добра сілкуйся.

**(21.04. — 21.05.)** Шалёны вір падзей, можна адчуць сябе разгубленым. Прызнайся да сваёй памылкі, паправіш адносіны ў пары. Самотны Бык можа закахацца, але абяцанні, якія пачуе — гэта словы на вецер. Праводзь як найбольш часу з блізкімі. Вялікае шчасце — будзеш у адпаведным часе і ў адпаведным месцы. Затое ненайлепшая форма; не пашкадуй пару дзён на адпачынак.

**(22.05. — 22.06.)** 10-15.04. незалежна ад недахопу інфармацыі твае рашэнні будуць трапныя, інтуіцыя таксама не падвядзе. Спазненні пойдуць у карысць. Задумайся над напрамкам, аддзялі важныя справы ад неістотных. 11-15.04. узрасце твой апетыт на любоўныя гульні ў пары. Калі нарадзіўся ты ў другой дэкадзе, могуць неўзабаве зайграць табе вянчальныя званы. Хатнія непаладкі, некамфортная сітуацыя дома 11-15.04. З 12.04. (да 18.04.) пільна сачы за аб'явамі аб працы.

**(23.06. — 23.07.)** Грошы, сяброўства, папулярнасць. 11-17.04. прыліў пачуццяў, нават у старой пары. Пераломныя рашэнні, якія завядуць цябе да станцыі «Поспех». У пачуццях можаш сягнуць па свой ідэал. Шанц на ўздзел у новым праекце. 13.04.-17.04. найлепш пачаць табе ўласную дзейнасць.

**(24.07. — 23.08.)** Вялікая папулярнасць і прыхільнасць іншых. Зоркі дададуць табе крылаў! Пашыбуеш да прафесійных поспехаў. Да 13.04. найбольш удалыя рандэву. Самотныя Львы няхай паразглядаюцца сярод сваіх супрацоўнікаў або знаёмых сваіх сяброў — можа сярод іх ёсць хтосьці варты асаблівай увагі. Будзеш запрацаваны, але задаволены, у выдатнай форме. Але прыпільнуй свой кашылёк.

**(24.08. — 23.09.)** 11-14.04. удасца табе ўцячы з застаўленых на цябе пастак. З 15.05 (да 19.04.) пойдзеш як бура — канкурэнцыя падзе ніцма! Інвестуй у сябе самога; несумленную канкурэнцыю прагоніць квадратура Марса. Новая праца не будзе цябе доўга чакаць — закруціся вакол яе паміж 12 і 18.04.

**(24.09. — 23.10.)** Цяпер ты абраннік лёсу — будзеш мець упэўненасць у шляху куды ісці. Добры настрой і здароўе. З 13.04. (да 18.04.) лягчэйшыя будуць кантакты з людзьмі, можаш высветліць непаразуменні і закончыць спрэчкі. Удалыя сямейныя сустрэчы, толькі не дыскутуйце пра палітыку і выхоўванне дзяцей! 11-15.04. можа хораша заіскрыцца ў пары.

**(24.10. — 22.11.)** Усё складаецца добра. Пазбягай адкрытай канкурэнцыі. Хадзі на ўсе мерапрыемствы. Можаш пашукаць цікавейшага і лепш платнага занятку. З 15.04. (да 20.04.) пачнеш урэшце пажынаць плады сваёй працы. З 16.04. (да 21.04.) шанцы на выйгрыш і дадатковы заробак. Замест аспірыну ўжывай алей з мелісы, не прастудзі мачавога пухіра.

**(23.11. — 22.12.)** Ад цябе залежыць, ці пакарыстаешся светлым, ці цёмным бокам моцы. З 13.04. (да 18.04.) можа ўдацца табе нейкі самавіты бізнес, будуць часцей паяўляцца госці ў тваім доме. Змабілізуешся да цяжкай працы, будуць сур'ёзныя размовы і вызначэнні. Зрабі парадак на камп'ютары і ў паперах. Ключ да поспеху — сістэматычнасць і акуратнасць.

**(23.12. — 20.01.)** Не кантралюй сябе, ідзі за эмоцыямі, не змарнуй нагоды. Самотны Казярог — не хавайся ў чатырох сценах, ты цяпер улюбёнец Венеры, якая здзейсніць усе твае жаданні, людзі будуць ахвотна і з прыемнасцю з табою кантактавацца. Калі думаеш пра працу на свой рахунак — можаш хораша ўвайсці на рынак, а твая нават невялічкая фірма выкасіць манапаліста!

**(21.01. — 19.02.)** Дасканалы настрой і ўпарадкаванне фінансавых спраў. 9-14.04. — можаш закахацца з першага пагляду! 11-15.04. будзеш мець нос да інтарэсаў! Дазволь пачуццям дзейнічаць наканаванню. На працы вельмі пільна прыглядайся прапановам.

**(20.02. — 21.03.)** Дабярэшся да бяспечнага порта. Але змены будуць кранальныя і вельмі цікавыя. У радні і кампаніі пастаў на ветлівасць і свабоду. На працы выйдзеш на лідара, але не разлічвай на пахвалы, хутчэй на штурханцы для прыкладу, каб зашмат не думаў. 11-14.04. можа прыкмеціць цябе вельмі ўплывовая асоба, якая ахвотна будзе цябе падтрымліваць. Грошы цябе любяць і жвава напоўняць твой кашалёк. Папраў сваю дыету, бо пагражае табе анемія.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (38)



А вашы людзі, калі прыязджаюць у Дубровіцу, то там гавораць па-свойму ці на ўкраінскай мове? — спытала я ў бацюшкі Паўло Дубянца.

— Людзі гавораць так, як у сваім сяле. Няма такой звычкі і патрэбы, каб там пераходзіць на літаратурную мову. Аднак калі хто едзе ў Кіеў, дык там ён вымушаны размаўляць па-ўкраінску, бо па-нашаму не кожны зразумее...

Я сама моцна вастрыла вушы і мозг, каб прысвоіць сэнс пачутага на мясцовай гаворцы. Тутэйшая мова, замест на поўнач ці ўсход, адсылала мяне на далёкі поўдзень, дзесьці ажно на Балканы.

Не дарма Адам Міцкевіч лічыў гэты прыпяцкі балотны куток калыскай Славяншчыны, міфічнай праайчынай славян. Адсюль мелі выйсці ў свет усе адгалінаванні славян, каб разрасціся ў паасобныя народы і краіны. Гэтая тэорыя, калі ўзяць пад увагу пладавітасць тубыльцаў, мела свой сэнс. Мае героі з Перабродаў, Тура, Мілячы ці Марочнага ганарыліся шматдзетнасцю. Праўда, пяцёра дзетак тут не рабіла вялікага ўражання, хутчэй прамаўляла як норма. Ну, хіба што гутарка вялася толькі і выключна пра пяць сыноў...

* * *

Прывязанасць да мясцовага дыялекту не абазначала яшчэ нацыянальнай ідэнтыфікацыі. Жыхары палескіх вёсак з украінскага боку лічылі сваіх сваякоў, якія з'ехалі на пастаяннае жыхарства ў Пінск ці Мінск, беларусамі. Тут, як у даваенны час, нацыянальнасць вызначалі адміністрацыйныя межы. Паколькі знаходзіліся мы ў памежнай зоне, здзіўляла мяне поўная адсутнасць навучання беларускай мовы. Тым часам праз прызму этнаграфіі, краявіду, дыялектаў ці кулінарыі тут бачыўся натуральны працяг Піншчыны, Століншчыны ці Брэстчыны.

На моўную ізаляцыю, як патлумачыў на сваім прыкладзе марочнянскі настаяцель, шмат у чым спрацавала адукацыя. Сам ён нарадзіўся ў мястэчку Нобель у другой палове XX ст. Большасць прадметаў выкладалася на рускай мове.

— У нас былі тры ўрокі па рускай літаратуры і два па ўкраінскай, так што большую ўвагу аддавалі рускай. Хоць сам святар вучыўся ў Пінску, ён не меў шанцаў, каб вывучаць літаратурную беларускую мову.

— Калі мы з сябрамі даязджалі да беларускай мяжы, адразу пераходзілі на рускую мову. Вось трох сяброў з адной мясцовасці стаяць на вакзале ў Пінску і вядуць такую размову:

— *Куда едем?*

— *К старикам, в деревню. Надо помочь в поли. А ты куда, тоже в деревню?*

— *Да, тоже к стрикам в деревню, надо помочь...*

Пасля перасячэння беларуска-ўкраінскай мяжы, адразу ўсе пераходзілі на свой мясцовы дыялект. Тады наша размова гучала прыблізна так:

— *Здоров! Ты куды едэш?*

— *До батьков в сэло. Трэба помогчы в полі. А ты дэ?*

— *Як дэ! То ж до батьков, помогчы трэба...*

Чаму ў Пінску не рашыліся адазвацца па-свойму? Дзейнічаў псіхалагічны бар'ер. Баяліся, што іх прыніжаць, праігнаруюць, абзавуць *дзеравеншчынай*... Нават у тых вёсках па беларускім баку, дзе гаварылі цьюцелька ў цюцельку як у іх Нобелі: у Невялі, Хойне, Месткавічах, Вульцы...

— Дык чаму ад вас ехалі вучыцца ў Пінск, а не ў Кіеў ці Роўна?

— У Пінск ішоў прамы аўтобус і білет каштаваў менш, чым у Кіеў. Для мяне было зручна яшчэ і па той прычыне, што ў Пінску жылі блізкія сваякі, — кажа айцец Паўло.

* * *

На добрую справу праблема моўнай ізаляванасці ва ўкраінска-беларускай памежнай зоне здавалася часовай і палітычнай. Гэтаму пярэчыла адкрытасць і звышталерантнасць палешукоў, а ўжо найбольш гэтыя межы перасякала асоба







айца Паўло. У сваёй працы даследчыка краязнаўцы кантакты з беларускімі калегамі лічыў неабходнымі і бясцэннымі. Дзякуючы дапамозе беларускіх гісторыкаў, здзейсніў векапомнае адкрыццё.

— Гэтае месца знаходзіцца 15 кіламетраў ад Марочнага, — пачаў святар, — ля самой Прыпяці.

У народзе зацерлася памяць пра нацыянальна-вызваленчыя паўстанні. Мясцовыя людзі часам згадвалі пра «Царскія могілкі», іншы раз пра «Баярскія могілкі». Але што да чаго — ніхто не ведаў. Месца ў лесе было пакінутае само сабе. Пасля прыйшлі вандалы і раскопвалі ўзгорак. Вецер вымеў пясок і на паверхні паказаліся людскія косткі, рэбры. Бацюшка наняў рабочага і разам з ім рашыў упарадкаваць месца, сабраць часткі пазваночніка, чэрапы. Знойдзеныя косці перапахавалі яшчэ раз у магілу. Беларускія гісторыкі з Пінска падказвалі, што там павінна знаходзіцца магіла паўстанцаў 1831 года. Атрад пад камандаваннем Пуслоўскага быў прыпёрты царскімі войскамі да берагоў Прыпяці, адкуль ужо не меў шанцаў адступіць.

На адным пальцы бацюшка знайшоў шлюбны пярсцёнак з выгравіраванай датай. На ім быў пазначаны 1829 год. Гэта, быў канкрэтны доказ, што магіла магла датычыць паўстанцаў 1831 года. Айцец Паўло наладзіў хрысціянскае пахаванне і паставіў над магілай пяць крыжоў...

Чаму так пазначыў месца?

Гэта быў хрысціянскі абавязак і свядомасць, што ў магіле ляжаць косці мясцовых памешчыкаў і мяшчан, якія ваявалі за гэтую зямлю.

Я слухала і не верыла сваім вушам. Усё гэта апавядаў мне праваслаўны бацюшка УПЦ Маскоўскага патрыярхату.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960